Рэгіянальная газета. Rh.by
тэлетыдзень
27 каналаў ад "Рэгіянальнай газеты"
НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015
Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".
11 сакавіка 2016 года №11 (1089)






Я размаўляла з цягніком: не едзь, пастой, хай мужчына пералезе

старонкі 20-21

# Наведнікам бараў прапануюць дыхаць у алкатэстар




старонка 2

Інфаграфіка "РГ".

Уставілі новыя вокны – стала яшчэ халадней. Пра тое, што новае не заўсёды лепш за старое

старонка 3

...І браўнінг у гаражы. Былога гендырэктара "Мінаблаўтатрансу" абвінавачваюць таксама ў карупцыі

старонка 4

Маладзечна – у лідарах па беспрацоўі ў рэгіёне

старонка 2

Ашмянцы ўстанаўліваюць рэкорд Еўропы па класічным паўэрліфтынгу

старонка 22

## Маладзечна – у лідарах па беспрацоўі ў рэгіёне

Яшчэ адно пытанне ад чытача Сяргея з Маладзечна: "Чаму б вам не надрукаваць, колькі беспрацоўных у горадзе і раёне?"

Зараз пазнаёмім са статыстыкай. Прытым, па ўсім рэгіёне – так што, зможаце параўнаць, як выглядае Маладзечанскі ў шэрагу іншых раёнаў.

У гэтым дапаможа інфармацыя галоўных статыстычных упраўленняў Мінскай і Гродзенскай абласцей. Лічбы прыводзяцца папярэднія на канец студзеня.

Па афіцыйнай статыстыцы, у сумных лідарах у рэгіёне па беспрацоўі – Маладзечанскі раён. Тут узровень зарэгістраванага беспрацоўя склаў 2,2% (1371 беспрацоўны). У Вілейскім раёне ён таксама высокі – 1,7% (331 чалавек).

Найніжэйшы ўзровень беспрацоўя – у Астравецкім раёне (0,4%), там усяго 42 беспрацоўныя. У Валожынскім гэты паказчык складае 0,6% (працу шукаюць 94 чалавекі).

За год колькасць беспрацоўных найбольш вырасла ў Смаргонскім раёне – амаль у 2,7 раза ў параўнанні з леташнім студзенем. У Вілейскім раёне колькасць людзей, якія шукаюць працу, павялічылася ў 2,6 раза.

Зноў жа са станоўчага боку выглядае Астравецкі раён. Тут зарэгістраваных беспрацоўных за год пабольшала зусім крыху – рост усяго на 5%. У Мядзельскім раёне іх колькасць вырасла ў паўтара раза.

Дэталёва пабачыць розныя паказчыкі, што датычаць беспрацоўя па кожным раёне, можаце на інфаграфіцы.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

**Узровень зарэгістраванага беспрацоўя ў рэгіёне на канец студзеня, у працэнтах**




**Колькасць беспрацоўных у працэнтах да леташняга студзеня**




## Зацвердзілі новага старшыню Мядзельскага райвыканкама

МЯДЗЕЛ

Прэзідэнт Беларусі **Аляксандр Лукашэнка** 3 сакавіка прыняў шэраг кадравых рашэнняў.

У тым ліку ён даў згоду на прызначэнне **Анатоля Вайнілкі** старшынёй Мядзельскага райвыканкама.

У райвыканкаме 4 сакавіка адбылася пазачарговая сесія раённага Савета дэпутатаў. У яе рабоце ўдзельнічаў старшыня Мінаблвыканкама **Сямён Шапіра**, які прадставіў кандыдатуру новага кіраўніка раёна.

Сесія зацвердзіла Анатоля Вайнілку старшынёй райвыканкама.

Таксама Сямён Шапіра падзякаваў за працу яго папярэдніку на гэтай пасадзе **Іллі Шацько**.

Анатолю Вайнілку 46 год. Нарадзіўся ў вёсцы Будслаў на Мядзельшчыне.

Скончыў Беларускі аграрна-тэхнічны ўніверсітэт і Акадэмію кіравання пры Прэзідэнце Беларусі.

Больш за 12 год узначальваў сельскагаспадарчы вытворчы кааператыў "Будслаўскі". Ад 2005 года Анатоль Вайнілка кіраваў Мядзельскім прадпрыемствам меліярацыйных сістэм.

Ён узнагароджаны медалём "За працоўныя заслугі" і ордэнам Пашаны. З'яўляецца дэпутатам Мінскага абласнога Савета дэпутатаў.

**Аддзел інфармацыі.**

● ТЭМА НУМАРА

# Наведнікам бараў прапануюць дыхаць у алкатэстар

МАЛАДЗЕЧНА

**На мінулым тыдні ў Маладзечанскім райвыканкаме адбылося пасяджэнне камісіі савета суб'ектаў прафілактыкі правапарушэнняў.**




Фота vk.com.

У адным з маладзечанскіх бараў.

На гэты раз сабраліся кіраўнікі і ўладальнікі кавярняў і іншых устаноў грамадскага харчавання, у дзейнасці якіх былі правапарушэнні.

Пра гэта "Рэгіянальнай газеце" расказала сябра камісіі **Алена Іванько.**

– Мы стварылі гэту камісію яшчэ ў 2014 годзе. І праца яе запатрабаваная, як паказвае практыка. Не ўсе забаўляльныя ўстановы горада могуць гарантаваць сваім наведнікам, што іх здароўе ў бяспецы.

На пасяджэнні абмеркавалі пытанні, якім чынам палепшыць працу забаўляльных устаноў, забяспечыць бяспеку іх наведнікам. Адным з важных пунктаў сустрэчы стала абмеркаванне культуры ўжывання алкагольных напояў.

Некаторым установам даручылі заключыць дагавор з дэпартаментам аховы, таму што ўласная ахова не спраўляецца са сваімі абавязкамі.

Прапанавалі размясціць стэнды з інфармацыяй пра шкоду алкагольных напояў, а таксама перагледзець віды дзейнасці. Таму што праца некаторых устаноў не адпавядае таму, на які від дзейнасці ўстанове выдалі ліцэнзію.

На выпраўленне хібаў установам далі адзін месяц, падчас якога будуць праходзіць праверкі.

### Частаваць булёнам выпіўшых наведнікаў прапаноўвае доктар-нарколаг

Сябра камісіі загадчык Маладзечанскага псіханеўралагічнага дыспансера **Аляксандр Бажко** ўнёс свае прапановы, як зменшыць наступствы для наведнікаў, якія знаходзяцца ў стане алкагольнага ап'янення.

– Па-першае, адной інфармацыі пра шкоду алкаголю ў забаўляльных установах мала. Трэба прымаць канкрэтныя меры. Адной з маіх прапаноў была прапанова дыхаць на выхадзе з бара ці з рэстарана ў алкатэстар.

Аляксандр Бажко сваю прапанову патлумачыў тым, што, як правіла, небяспека для здароўя ў наведнікаў у стане алкагольнага ап'янення ўзнікае не тады, калі ён знаходзіцца ў бары, а хутчэй гэта здараецца па дарозе дамоў.

– Дык вось калі алкатэстар пакажа, напрыклад, два праміле алкаголю ў крыві, то такому чалавеку варта было б устрымацца ад пешага падарожжа дамоў. І ахова клуба ці бара павінна будзе прапанаваць свайму наведніку таксі.

Аляксандр Пятровіч таксама прапанаваў ідэю правесці сярод устаноў горада конкурс на лепшы безалкагольны кактэйль.

– Пагадзіцеся, ці шмат вы бачылі прыгожых безалкагольных кактэйляў у меню кавярняў. А між тым людзі, магчыма, замаўлялі б іх, каб пакаштаваць нешта смачнае, прыгожае і незвычайнае.

І яшчэ адна прапанова тычылася таго, каб папрасіць у меню таго наведніка, што замаўляе алкаголь, бясплатна ўключаць каву, гарбату ці булён. І падаваць іх тады, калі наведнік ужо збярэцца сыходзіць.

– Па-першае, ужыванне гарачых напояў змяншае ступень алкагольнага ап'янення, а па-другое, гэта гарантуе, што нецвярозы наведнік яшчэ затрымаецца ў кавярні на лішнія 20 хвілін.

### На ўсё Маладзечна 50-60 чалавек, якім трэба культурны адпачынак

Заснавальнік аднаго з маладзечанскіх бараў **Руслан Куракевіч** прызнаецца, што ідэі, прапанаваныя Аляксандрам Бажко, не здаюцца яму нейкімі беспадстаўнымі і невыканальнымі.

– Мы за тое, каб людзі прывыкалі да культурнага адпачынку. Таму і ладзім вечарыны, гульні, кінапаказы. На жаль, у Маладзечне я магу налічыць чалавек 50-60, каму гэта насамрэч трэба.

Не так даўно, прызнаецца Руслан, у бары зрабілі спробу адкрыць ранішнюю кавярню, каб у кожнага маладзечанца была магчымасць пачаць раніцу з кубка добрай кавы.

– Аказалася, што і гэта было мала каму трэба.

Але да прапановы дыхаць у алкатэстар Руслан паставіўся скептычна.

– Мне б не хацелася браць на сябе адказнасць за тое, што пакажа гэты прыбор. Ведаеце ж, тэхніка недасканалая. Раптам наведніку падасца, што гэтага мала. Або ў ДАІ, напрыклад, іншыя паказчыкі будуць. Не, не хацелася б за гэта адказваць.

А ўдзельнічаць у конкурсе на лепшы безалкагольны кактэйль або прапанаваць наведнікам кубак чаю – калі ласка. Гэта добрая ідэя.

**Наталля ТУР.**



Загадчыца юрыдычнага аддзела гарадскога таварыства абароны спажыўцоў Кацярына Балашова.

**Офіс гарадскога таварыства абароны правоў спажыўцоў месціцца ў Маладзечне па адрасе: вул. Віленская, 12, каб. 23. Графік працы: пн-пт 9:00-18:00, абед 13:00-14:00; сб 11:00-15:00. Тэлефон бясплатнай гарачай лініі: 8-0176-50-41-43 альбо 8-029-764-24-07.**

# Уставілі новыя вокны – стала яшчэ халадней

## Пра тое, што новае не заўсёды лепш за старое

МАЛАДЗЕЧНА

**Ніколі не ўгадаеш, пашанцуе ці не з фірмай, у якой замаўляеш дзверы, столь ці вокны. Можна шчасліва пражыць з новай пакупкай 20 гадоў, а можна не адзін год дамагацца, каб фірма выправіла ўсе хібы іх "самай лепшай і надзейнай" прадукцыі, як звычайна пішуць у прапановах.**




Маладзечанка вырашыла памяняць драўляныя вокны ў доме, каб стала цяплей. Памяняць памяняла, але не пацяплела, наадварот, стала яшчэ халадней.

Маладзечанка **Валянціна Жураўская** знайшла ў сваёй паштовай скрыні рэкламную лістоўку фірмы, якая прадае вокны. Жанчына якраз збіралася памяняць іх на лецішчы. Яна патэлефанавала па ўказаным нумары, і ёй падрабязна распавялі ўмовы дамовы.

Спачатку на дом прыехаў замершчык, пасля фірма зрабіла эскіз вокнаў, і жанчына ўнесла частку грошай. Згодна з дамовай, аплата 23-х мільёнаў, у якія ўваходзілі і кошт вокнаў, і іх устаноўка, мусіла адбывацца ў растэрміноўку.

Калі спецыялісты прыехалі мяняць вокны, адно з шасці ўставіць не паспелі, бо да гэтага часу на вуліцы сцямнела. Дамовіліся, што прыедуць на наступны дзень скончыць працу.

– Колькі слёз выліла з гэтымі вокнамі! – кажа Валянціна Васільеўна. – Мужа ў бальніцу адвезла праз усё гэта, бо яму хвалявацца нельга было. Гэта ж не капейкі – вокны памяняць. Прыехалі ўстаўляць – адкосы павымалі, сталі сцены рэзаць, каб вокны ўлезлі. Сышлі – у доме па калена смецця.

Некалькі месяцаў мінула, але ніхто да Валянціны так і не прыехаў, і няўстаўленае акно стаіць дагэтуль.

– Першы раз пазваніла ў фірму, паскардзілася на вільгаць, холад, а мне адказалі, што гэта нармальна, трэба толькі печ прапаліць, прагрэць дом. Праз некалькі дзён мароз пайшоў – на падваконні пад гэтымі новымі вокнамі лёд стаіць! Я зноў званю, а мне ў адказ: "А што, гэта я вам вокны ставіў? Ды калі б я такія грошы заплаціў і мне так зрабілі, я не ведаю, што б рабіў!" Я падумала, што нумар пераблытала, папрасіла ўнука праверыць. Аказалася, той жа. Зноў званю – ужо не адказваюць, – абураецца маладзечанка.

Жанчына напісала прэтэнзію, у якой патрабавала ліквідаваць недахопы ці вярнуць грошы, але ўсё безвынікова. Прэтэнзія, адпраўленая па пошце, вярнулася назад.

– Дом парэзалі, ён пачаў даваць усадку, не ведаю, што цяпер рабіць. Раней, калі драўляныя вокны стаялі, у доме было да 20 градусаў цяпла. Цяпер жа складана нагрэць і да 15 градусаў. Вокны коўдрай завешваю, каб не дзьмула, – кажа Валянціна Васільеўна.

Маладзечанка звярнулася ў гарадское таварыства абароны правоў спажыўцоў.

– Мы паглядзелі дамову, а ў ёй ні слова не сказана пра тое, што вокны павінны былі ўстаўляць, – кажа загадчыца юрыдычнага аддзела грамадскага аб'яднання **Кацярына Балашова**. – Значыць, па гэтым пункце няма чаго ад арганізацыі патрабаваць, бо дамова падпісаная. Іншая справа, што чыталася яна няўважліва, бо ў ёй мусіць быць прапісана ўсё, што з кліентам прагаворана вусна.

Але ўстаноўка апынулася не адзіным мінусам набытых вокнаў.

– Па-першае, на шкле ёсць драпіны. Па-другое, вокны прамярзаюць. Унутры збіраецца кандэнсат і з'яўляюцца ўзоры, як раней у вясковых хатах, чаго ў сучасных вокнах быць не павінна, – працягвае Кацярына Балашова. – За акном мінус 25 градусаў, а ў доме – мінус 11. Печ паляць, а цяпла няма. Стала яшчэ горш, чым было. Таму мы склалі і накіравалі ў арганізацыю прэтэнзію па якасці вырабу. У выпадку, калі выраб неналежнай якасці, вытворца мусіць вярнуць спажыўцу і страты, звязаныя з яго ўстаноўкай.

Калі прэтэнзія вернецца назад ці калі арганізацыя адмовіць задаволіць патрабаванні кліента, гэта стане падставай для таго, каб ісці ў суд. У судзе ж можна будзе патрабаваць таксама няўстойку за парушэнне тэрмінаў вяртання грошай.

Па Законе аб абароне правоў спажыўцоў, гэта 1 працэнт за кожны дзень пратэрміноўкі. У судзе можна гаварыць і пра кампенсацыю маральнай шкоды.

Пакуль што невядома, ці атрымаецца вырашыць канфлікт у дасудовым парадку. Чым скончыцца гэта справа, мы распавядзём на старонках газеты. Але для Валянціны Жураўскай важна, каб іншыя не траплялі ў такія пасткі. Будзьце пільныя і ўважліва чытайце дамовы. Асабліва тое, што напісана дробным шрыфтам.



Настасся РОЎДА
nastya.rovdo@gmail.com
Vel 566-26-99 (працоўны)

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 3.03 | 10.03 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 21 275,00 | 20 985,00 |
| Еўра | 23 094,00 | 23 033,00 |
| Злоты | 5 334,45 | 5 327,81 |
| Расійскі рубель | 288,85 | 289,87 |
| Грыўня | 785,49 | 796,69 |
| **Курсы ў "Банку БелВЭБ" у Маладзечне 9.03** | | |
| Еўра | 22900/23200 | 22800/23200 |
| Долар ЗША | 21150/21350 | 20800/21100 |

**ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна)**

| ПРАДУКТЫ | 2.03 | 9.03 |
|---|---|---|
| | Цана руб. | |
| Кілбаса "Мядовая", 1 кг | 169 900 | 169 900 |
| Сасіскі, 1 кг | 53 800 | 53 800 |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 28 900 | 28 900 |
| Свініна (выразка), 1 кг | 70 000 | 70 000 |
| Мінтай свежамарожаны, 1 кг | 43 800 | 43 800 |
| Селядзец, 1 кг | 47 000 | 47 000 |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 138 000 | 138 000 |
| Рыс, 0,9 кг | 14 500 | 14 500 |
| Грэчка, 0,8 кг | 17 500 | 17 500 |
| Яйкі курыныя С1, 1 дзясятак | 16 000 | 16 000 |
| Алей "Дзіўны", 1 л | 24 000 | 24 000 |
| Маянэз, 200 г | 6 600 | 6 600 |
| Соус "Мінскі", 0,5 л | 14 500 | 14 500 |
| Кава "Nescafe", 100 г | 39 500 | 39 500 |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 14 000 | 14 000 |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 6 900 | 6 900 |
| Часнок, 1 кг | 65 000 | 74 500 |
| Капуста, 1 кг (маладая) | 5 500 | 19 900 |
| Морква, 1 кг | 6 900 | 6 900 |
| Баклажаны, 1 кг | 68 000 | 59 900 |
| Лімоны, 1 кг | 43 000 | 44 000 |
| Апельсіны, 1 кг | 27 000 | 27 000 |
| Мандарыны, 1 кг | 28 000 | 28 500 |
| Грэйпфруты, 1 кг | 26 500 | 24 500 |
| Ківі, 1 кг | 33 500 | 29 500 |
| Буракі, 1 кг | 5 500 | 5 500 |
| Памідоры, 1 кг | 39 900 | 32 000 |
| Агуркі, 1 кг | 37 500 | 37 500 |
| Перац, 1 кг | 89 900 | 79 500 |
| Вінаград, 1 кг | 35 000 | 30 000 |
| Бананы, 1 кг | 25 000 | 24 900 |
| Хурма, 1 кг | 28 500 | 27 500 |
| Шампіньёны св., 1 кг | 55 000 | 54 000 |
| Яблыкі, 1 кг | 14 000 | 13 000 |
| Грушы, 1 кг (Дзюшэс) | 29 900 | 30 000 |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| Малако, 1,5 л | 18 000 | 18 000 |
| Масла, 1 кг | 100 000 | 100 000 |
| Тварог, 1 кг | 55 000 | 55 000 |
| Бульба, 1 кг | 3 500 | 2 500 |
| Сала, 1 кг | 100 000 | 100 000 |
| Яйкі, 1 дзясятак | 25 000 | 25 000 |
| Мёд, 0,5 л | 60 000 | 60 000 |

# "Часам прадстаўляюцца бежанкамі з Украіны ці Малдовы"

## На Вілейшчыне абкрадаюць пажылых

**ВІЛЕЙКА**

За мінулы год і пачатак гэтага ў Вілейскім раёне зафіксавалі пяць падобных па сцэнарыі крадзяжоў. 27 кастрычніка смуглыя асобы выкралі ў 74-гадовай жанчыны больш за 12 мільёнаў рублёў і 50 даляраў ЗША, прыводзіць прыклад оперупаўнаважаны аддзялення крымінальнага вышуку Вілейскага РАУС **Аляксандр Русецкі.** Пры гэтым адцягвалі ўвагу гаспадыні: прапаноўвалі набыць пакрывала, просьбамі прынесці вады.

У снежні ў дом да 81-гадовай жыхаркі зайшлі чатыры жанчыны. У яе зніклі залатыя вырабы і грошы на суму больш за 63 мільёны рублёў.

**Усе гэтыя крадзяжы адбываюцца ў будныя дні. У найбольшай небяспецы – пажылыя жыхары вёсак, дзе мала жыхароў і якія размешчаныя на ўскраінах раёна.**

Ва ўсіх выпадках невядомыя смуглыя жанчыны прапаноўвалі жыхарам купіць розныя бытавыя дробязі: пасцельную бялізну, ручнікі, посуд, будаўнічы інструмент па вельмі прывабных цэнах.

– Гэтыя гандляркі часам прадстаўляюцца бежанкамі з Украіны ці Малдовы, могуць гаварыць са спецыфічным акцэнтам, афарбоўваюць валасы ў светлыя тоны, – расказвае **Аляксандр Русецкі.**

Як мяркуюць супрацоўнікі крымінальнага вышуку, такі гандаль – толькі прыкрыццё для правядзення разведкі па выбары дамоў для учынення крадзяжоў.

Нягледзячы на папярэджанні аб махлярстве, вяскоўцы ўсё ж адчыняюць дзверы і ўпускаюць да сябе нязваных гасцей. Таму міліцыя яшчэ раз папярэджвае: будзьце асцярожныя, не ўпускайце ў сваё жыллё старонніх. Не паспееце азірнуцца, як пазбавіцеся маёмасці або грошай.

Супрацоўнікі крымінальнага вышуку райаддзела звяртаюцца з просьбай: будзьце пільныя, пры з'яўленні падазроных асоб запісвайце нумарныя знакі аўтамашын, на якіх яны прыязджаюць, запамінайце прыкметы. І як мага хутчэй інфармуйце дзяжурную часць райаддзела аб з'яўленні такіх асоб па тэлефонах: **102 і 8(029)5076686, 8-01771-3-63-48, 5-41-00, 5-48-38.**

**Аддзел інфармацыі.**

## З-за пажару ў Маладзечне эвакуявалі 30 чалавек

**МАЛАДЗЕЧНА**

Здарэнне адбылося напярэдадні свята, 7 сакавіка.

Каля 11 гадзін раніцы маладзечанскія выратавальнікі атрымалі паведамленне пра пажар у пакоі інтэрната па вуліцы Касманаўтаў.

Калі прыбылі падраздзяленні МНС, ішоў дым з акна на чацвёртым паверсе.

З будынка выратавальнікі эвакуявалі 30 чалавек, але ніхто не пацярпеў.

У пакоі, дзе здарыўся пажар, згарэў тэлевізар, закураныя сцены.

Прычына пажару высвятляецца. Разглядаецца версія – кароткае замыканне праводкі тэлевізара.

**Па інфармацыі сайта МНС.**





Следства выявіла неаднаразовыя факты выкарыстання ў асабістых мэтах гендырэктарам "Мінаблаўтатрансу" маёмасці прадпрыемства. Фота tut.by.

# ...І браўнінг у гаражы

## Былога гендырэктара "Мінаблаўтатрансу" абвінавачваюць таксама ў карупцыі

**Яму прад'яўленае абвінавачанне па пяці артыкулах Крымінальнага кодэкса**

Ва ўпраўленні Следчага камітэта па Мінскай вобласці завершанае расследаванне крымінальнай справы ў дачыненні да былога генеральнага дырэктара ААТ "Мінаблаўтатранс", які ўчыніў шэраг карупцыйных злачынстваў.

Як паведамляе афіцыйны прадстаўнік УСК па Мінскай вобласці **Таццяна Беланог**, следства ўстанавіла, што кіраўнік карыстаўся сваім службовым становішчам у асабістых інтарэсах. Каб пазбегнуць матэрыяльных затрат, ён сістэматычна выкарыстоўваў працу падначаленых у іх працоўны час для будаўнічых і гаспадарчых работ як на ўласным участку, так і на ўчастках сваякоў.

Таксама ён сістэмна набываў за кошт прадпрыемства мэблю, бытавую тэхніку, аўтамабільныя дэталі і камплектуючыя вырабы. Каб схаваць крадзяжы, даваў указанні кіраўнікам раённых прадпрыемстваў уносіць у афіцыйныя дакументы несапраўдныя звесткі пра назвы тавараў, што набываліся і спісваліся на выдаткі па рамонце і эксплуатацыі службовага транспарту.

**Следства выявіла факты неаднаразовага выкарыстання ў асабістых мэтах генеральным дырэктарам маёмасці прадпрыемства. Ён накіраваў у карыстанне сваякоў службовы аўтамабіль, у тым ліку для выездаў за мяжу. За кошт сродкаў філіялаў прадпрыемства арганізоўваў банкеты.**

Акрамя таго, папярэдняе расследаванне ўстанавіла, што кіраўнік, жадаючы зрабіць дарагі рамонт свайго службовага аўтамабіля, наўмысна арганізаваў учыненне злачынства. У 2012 годзе ён даў указанне падначаленым спецыяльна нанесці драпіны на кузаў аўтамабіля і звярнуцца з заявай у міліцыю аб пашкоджанні "Аўдзі А6" невядомай асобай. У выніку аўтамабіль цалкам перафарбавалі.

Сабраныя доказы па 25 эпізодах злачыннай дзейнасці, у выніку якіх службовая асоба нанесла страты прадпрыемству прыкладна на 450 мільёнаў рублёў. Следства забяспечыла поўнае пакрыццё шкоды. Накладзены арышт на маёмасць больш як на 8 мільярдаў рублёў, у тым ліку на грашовыя сродкі, нерухомасць, аўтамабілі.

Да матэрыялаў крымінальнай справы далучаныя заключэнні праверкі фінансава-гаспадарчай дзейнасці ААТ "Мінаблаўтатранс", дапытаныя дзясяткі сведак. У межах праведзеных вобыскаў у гаражы, які выкарыстоўваў падследны, знайшлі пісталет "Браўнінг", што захоўваўся там незаконна і быў прыдатны для стральбы.

З улікам усіх акалічнасцяў кіраўніку выстаўленае канчатковае абвінавачанне на падставе чч. 1, 2 арт. 210 (крадзеж шляхам злоўжывання службовымі паўнамоцтвамі, учынены групай асоб паўторна), ч. 4 арт. 16 і ч. 1 арт. 218 (арганізацыя наўмыснага пашкоджання маёмасці, што прывяло да прычынення шкоды ў значным памеры), ч. 2 арт. 295 (незаконныя дзеянні ў дачыненні да агнястрэльнай зброі), ч. 3 арт. 424 (злоўжыванне службовымі паўнамоцтвамі, што пацягнула цяжкія наступствы), ч. 2 арт. 426 (перавышэнне ўлады або службовых паўнамоцтваў, учыненае з іншай асабістай зацікаўленасці) КК.

Мера стрымання ў выглядзе ўзяцця пад варту, выкарыстаная ў дачыненні да абвінавачанага ад пачатку папярэдняга следства, не змянялася.

Таксама прыцягнутыя да крымінальнай адказнасці службовыя асобы, якія ўвайшлі ў змову з генеральным дырэктарам ААТ "Мінаблаўтатранс" і садзейнічалі яму ва ўчыненні супрацьпраўных дзеянняў. Крымінальная справа перададзеная пракурору для накіравання ў суд.

**Па інфармацыі Таццяны БЕЛАНОГ, афіцыйнага прадстаўніка УСК па Мінскай вобласці.**

### У тэму

Аднаго з падначаленых генеральнага дырэктара ААТ "Мінаблаўтатранс", дырэктара філіяла "Аўтобусны парк №5" у Вілейцы ў канцы лістапада 2014 года знялі з пасады.

Праверка Маладзечанскага міжраённага камітэта дзяржкантролю знайшла правапарушэнні ў рабоце філіяла.

Сярод іх такія: аўтобусы спазняліся, а рэйсы зрываліся. Аўтапарк №5 перавозіў грузы на многа тон самазваламі, перавышаючы дазволеную масу, без спецыяльных дазволаў на праезд, а таксама без адпаведнай аплаты ў бюджэт.

У 2012-2014 гадах філіял выкарыстоўваў паліва без зацверджаных нормаў расходу. Крэдытныя рэсурсы выкарыстоўваліся не па мэтавым прызначэнні.

**Аддзел інфармацыі.**



Аляксей Фяцісаў.

# Успамін пра фотамастака Аляксея Фяцісава

МАЛАДЗЕЧНА

**15 сакавіка споўнілася б 90 год фотамастаку з Маладзечна Аляксею Кузьмічу Фяцісаву. Яго ведалі далёка за межамі нашага рэгіёна.**

Чырвонаармеец-добраахвотнік вярнуўся з Другой сусветнай вайны да мірнага жыцця, маючы шмат баявых узнагарод. Ён меў шчасце ў сваёй сям'і, гадуючы разам са сваёй любімай жонкай **Марыяй Іванаўнай** дачку **Людмілу**. Сям'ю Фяцісавых паважалі і паважаюць сёння знаёмыя, тыя, хто разам працаваў, ведаў Аляксея Кузьміча.

У 1970-х я, фотааматар, здымаў сваёй камерай "Зеніт-3М" толькі сваю сям'ю і блізкіх. Але ў 1974 годзе ў Маладзечне адкрыўся фотаклуб "Гарызонт", дзе настаўнікам для многіх аматараў стаў Аляксей Кузьміч Фяцісаў.

Я, як і іншыя, атрымліваў вялізнае задавальненне ад практыкі, якой загружаў нас Фяцісаў. Клуб запрашаў на заняткі вядомых фатографаў. Такіх, як франтавы фотарэпарцёр **Аляксандр Дзітлаў**, іншых.

Па ініцыятыве Фяцісава у Маладзечне пачалі праводзіцца выставы фотааматараў: у ГДК, музеі, бібліятэцы.

Аляксей Кузьміч адным з першых асвоіў тэхніку каляровага здымка, быў у курсе працэсаў і падзей у сусветным фотамастацтве.

Асвоіў кіно. А вось заняцца відэа не паспеў, не дала хвароба.

Пасля Аляксея Кузьміча засталося шмат публікацый у газетах, часопісах, кнігах. А сваю тэхніку ён пакінуў унуку і дачцэ.

Мы, яго вучні, заўсёды памятаем Аляксея Кузьміча і тое, як ён вучыў нас бачыць свет.

**Аляксандр САЛАГУБ, вучань Фяцісава.**

## Вучні з рэгіёна перамаглі ў абласным "ТэхнаІнтэлекце"

ВІЛЕЙКА, МЯДЗЕЛ, МАЛАДЗЕЧНА

**Падвялі вынікі абласнога этапу рэспубліканскага конкурсу "ТэхнаІнтэлект".**

Прадстаўнікоў Вілейшчыны ўзнагародзілі на ім двума дыпломамі. **Аляксандр Міклуш** перамог у секцыі "Тэхнічнае канструяванне" і атрымаў дыплом першай ступені. Адзначылі яго за мадэль-копію зенітнай кіраванай ракеты "В-860". **Юры Шышко** ў секцыі "Робататэхніка, аўтаматыка і інтэлектуальныя сістэмы" заняў трэцяе месца.

Абодва яны вучні Нарочкай сярэдняй школы і займаюцца ў гуртку "Ракетамадэляванне" Вілейскага раённага цэнтра дадатковай адукацыі дзяцей і моладзі (педагог **Уладзімір Шапель**).

**Аляксандр Міклуш будзе прадстаўляць раён на восьмым рэспубліканскім конкурсе навукова-тэхнічнай творчасці вучнёўскай моладзі "ТэхнаІнтэлект".**

Пройдзе ён ад 15 да 17 сакавіка ў Беларускім нацыянальным тэхнічным універсітэце. Пра ўсё гэта паведаміў метадыст цэнтра дадатковай адукацыі дзяцей і моладзі **Анатоль Прыц.**

**У пераможцах яшчэ прадстаўнікі Мядзела і Маладзечна**

Паводле інфармацыі абласнога інстытута развіцця адукацыі, у конкурсе вызначыліся не толькі віляйчане.

У секцыі "Робататэхніка, аўтаматыка і інтэлектуальныя сістэмы" першае месца заняў **Андрэй Маліноўскі** з гімназіі-інтэрната Мядзела. А ў секцыі "Авіяцыя, касманаўтыка і аэракасмічная тэхніка" перамог вучань Маладзечанскай агульнаадукацыйнай спецыяльнай школы-інтэрната №2 для дзяцей з парушэннямі зроку **Антон Бельскі.**

У секцыі "Малюнак. Творчая праца на тэму "Мой любімы дом, вуліца, плошча" трэція месцы ў вучаніц гімназіі-каледжа мастацтваў Маладзечна **Вольгі Капцёнак** і **Варвары Лобач.**

Яшчэ дзвюх маладзечанак адзначылі ў секцыі "Жывапіс. Творчая праца на тэму "Любімыя фарбы горада, вёскі ў любую пару года". Трэція месцы занялі **Крысціна Скурат** з гімназіі-каледжа мастацтваў і **Дыяна Кізік** з сярэдняй школы №14.

**Аддзел інфармацыі.**



Аляксандр Міклуш перамог у сваёй намінацыі.

## Як адсвяткуюць Масленіцу ў Вілейцы, Мядзеле і Маладзечне

ВІЛЕЙКА

**У вёсцы Селішча на Вілейшчыне 12 сакавіка пройдзе раённае свята "Прыляцела ластавіца – прынесла нам Масленіцу".**

Пакажуць тэатралізаванае прадстаўленне, канцэртную праграму.

Наладзяць выставу-продаж вырабаў дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва.

Будзе працаваць гандаль. Пачатак – а 12-й гадзіне.

Назаўтра, 13 сакавіка, у Ніжнім парку Вілейкі адбудзецца свята "Праводзіны зімы".

Пакажуць абрад, адбудуцца карагоды, гульні, конкурсы, выступленне калектываў мастацкай самадзейнасці.

Пачнецца свята ў 12:00.

МЯДЗЕЛ

У Мядзеле раённае свята на Масленіцу пройдзе 13 сакавіка на плошчы імя Шаранговіча.

Пачнуць святкаваць а 13-й гадзіне.

МАЛАДЗЕЧНА

Апоўдні 13 сакавіка маладзечанцаў запрашаюць у гарадскі парк на народнае гулянне – свята "Масленіца – 2016".

У праграме:

– Тэатралізаванае, гульнёва-забаўляльнае прадстаўленне "Прыляцела ластаўка – прынесла нам Масленку"

– Выступленні калектываў мастацкай самадзейнасці

– Масленічная забава "Слуп з падарункамі".

Інфармацыйны аддзел Палаца культуры дадае, што гасцей чакае выстава-продаж вырабаў дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва і гандлёвыя рады.

**Аддзел інфармацыі.**

## Выйшлі тры кнігі пра Астравеччыну

МЯДЗЕЛ, АСТРАВЕЦ

Краязнаўца з вёскі Камарова на Мядзельшчыне **Іван Драўніцкі** працягвае ладзіць прэзентацыі сваіх новых кніжак, прысвечаных Астравеччыне.

Адбыліся прэзентацыі ў Паставах, Камарове і Свіры на Мядзельшчыне, Страчанцы і Страчы на Астравеччыне.

Выдаў кніжкі **Міхаіл Гіль** з Пастаў. Адразу меркавалася, што гэта будзе адна кніга. Але па тэхнічных прычынах атрымаліся тры невялікія, падзеленыя па тэрытарыяльнай прыкмеце.

Адна з іх называецца "У мядзведжым кутку" і прысвечаная Клюшчаншчыне. Другая кніга – "Наваколле Сарачанскіх азёр".

Трэцяя мае назву "На правабярэжжы Страчы". "Толькі тут можна ўбачыць помнік прыроды рэспубліканскага значэння Камарышкі, наведаць урочышча Дубы, дзе было капішча Перуна. Тут побач ужываецца польскі час, СССР і сучасная Беларусь", – піша аўтар.

**Працаваў на Астравеччыне педагогам**

– Ідэя напісаць пра гэтыя мясціны ўзнікла таму, што працаваў настаўнікам у Клюшчанах год да арміі, у 1952-1953 гадах. Пазнаёміўся з людзьмі і гісторыяй, прыйшоў да высновы, што край гэты вельмі багаты на таленавітых людзей і бурлівае мінулае, – расказвае Іван Драўніцкі. – Пасля таго, як адслужыў, зноў вярнуўся на Астравеччыну, працаваў два гады дырэктарам школы ў Вялікіх Стаўпянятах. Таму гэты кавалак Астравеччыны быў мне вядомы. Яшчэ адна прычына: там дзяды і прадзеды жылі, нарадзіўся бацька. І сваякам ладна ўвагі ўдзяліў.

Над кнігамі Іван Драўніцкі пачынаў працаваць даўно: год дваццаць збіраў матэрыял.

– Выклаў на паперу, што засталося у памяці – тое, што бачыў і чуў ад людзей пра гэты край, прыроду, знакамітых людзей. Знайшоў звесткі пра навукоўцаў, паэтаў, майстроў, мастакоў, – кажа ён.

Краязнаўца збіраецца працягваць прэзентаваць выданні ў Астравецкім раёне. І там, дзе ладзіць прэзентацыі, пакідае кнігі ў бібліятэках, каб ахвотныя маглі прачытаць.

Алесь ВЫСОЦКІ.

# Таццяна Атрошанка раскрывала сутнасць жанчыны

МАЛАДЗЕЧНА

**Аўтарскі творчы вечар паэтэсы і спявачкі "З табою..." прайшоў у раённым Цэнтры культуры 4 сакавіка.**



Фота Багдана РАМАНЮСКАГА.

Таццяна Атрошанка падчас свайго канцэрта ў Маладзечне.

Таццяна Атрошанка чытала вершы, спявала песні на свае словы, а таксама сама была вядучай. Творчая праграма атрымалася вельмі пачуццёвай, шчырай і цёплай.

Сама паэтэса распавядае, што на канцэрце напярэдадні 8 Сакавіка хацела раскрыць сутнасць жанчыны, пазнаёміць з яе ўнутраным светам. Таму праграма была больш адрасаваная якраз мужчынам.

– Мужчыны часта скардзяцца, што жанчыны – гэта нібы істоты з іншай планеты, – гаворыць творца. – Таму я паспрабавала зрабіць нас больш зразумелымі. І па рэакцыі мужчын, якія пасля канцэрта вельмі цёпла дзякавалі мне, раблю выснову, што гэтай мэты ў пэўнай ступені дасягнула.

На канцэрце выступала і дачка Таццяны **Даша**. Даша таксама спявае, яна ўладальніца Гран-пры "Адной зямлі", фіналістка "Дзіцячага Еўрабачання".

Чуллівым момантам стала выступленне Дашы.

– Гэта быў сюрпрыз для мяне, – дзеліцца паэтка. – Яны рыхтавалі гэты нумар з бацькам, і мне таксама было цікава паглядзець, што яны задумалі. Атрымалася вельмі прыгожа.

У канцэртнай праграме таксама ўзялі ўдзел паэт **Канстанцін Цыбульскі** і харэографы Моладзевага тэатра эстрады Мінска.

– Гэты вечар быў жаночай шчырасцю, энцыклапедыяй жыцця жанчыны, – кажа **Ганна Уладыка**, дырэктарка цэнтралізаванай клубнай сістэмы Маладзечанскага раёна. – Таццяна гаварыла пра тое, што сама перажыла і выказала ў творчасці. Тэма любові, тэма жанчыны былі галоўнымі ў гэты вечар. Атрымаўся цудоўны канцэрт ад сэрца жанчыны да сэрцаў усіх жанчын.

Аддзел інфармацыі.

## Вера Гоціна ў 72 гады стварае карціны з выкарыстаннем камп'ютара

МАЛАДЗЕЧНА

**Выстава "Вачыма кахання" адкрылася на трэцім паверсе Палаца культуры 3 сакавіка.**

Імпрэза ўключала абмеркаванні карцін, расповед пра мастачку, якая парадавала гасцей музіцыраваннем.

Наведнікі па-іншаму ўспрымаюць яркае святло ў яе карцінах, калі даведваюцца пра трагічны лёс жанчыны. У той жа дзень, калі яна прыйшла да веры ў Бога, страціла адзінага сына. Чакалі цяжкія гады, якія яна змагла перажыць дзякуючы духоўнасці. І цяпер дзеліцца з іншымі сваімі набыткамі.

Творы Веры Гоцінай ўяўляюць сабой яркія партрэты з рознымі настроямі і эмоцыямі, якія аўтарка апрацоўвала пры дапамозе камп'ютарных тэхналогій. Гэта надае адметнасць аўтарскаму стылю мастачкі. Кожны твор – магчымасць паразважаць над лёсам і адносінамі.

Выстава працуе да 24 сакавіка.

Больш фота глядзіце на сайце rh.by.

Аддзел інфармацыі.

**Даведка "РГ". Вера Гоціна** нарадзілася 28 снежня 1944 года ў Ганцавічах. Закончыла Мінскае музычнае вучылішча, аддзяленне фартэпіяна. Ад 1968 да 1990 года была артысткай аркестра аддзела музычных ансамбляў Белдзяржфілармоніі. Удзельнічала ў шматлікіх музычных праектах. Выяўленчым мастацтвам пачала займацца ад 2014 года. Удзельнічала на выніковай выставе "Ствараем, абмяркоўваем, марым" праекта "Рэгіянальныя сувеніры як сродак інтэграцыі мясцовых супольнасцяў" ў Маладзечне.

## У Вілейцы ўпершыню пройдзе танцавальны марафон

ВІЛЕЙКА

У Палацы культуры ўпершыню пройдзе вілейскі танцавальны марафон "Час танцаваць". Намечаны ён на 17 сакавіка.

– Праводзіцца танцавальны марафон з мэтай аб'яднання харэаграфічных калектываў горада і папулярызацыі разнастайных танцавальных напрамкаў, – расказала намеснік дырэктара Палаца культуры **Вольга Шляпо**.

Падчас яго на сцэне выступяць калектывы горада. Сярод іх будуць як дзіцячыя танцавальныя калектывы – дзвюх гімназій, Палаца культуры, так і дарослыя.

Аддзел інфармацыі.

**Тэлефонныя коды гарадоў рэгіёну:**

| | |
|---|---|
| **Астравец** | -01591, |
| **Ашмяны** | -01593, |
| **Валожын** | -01772, |
| **Вілейка** | -01771, |
| **Маладзечна** | -0176, |
| **Мядзел** | -01797, |
| **Смаргонь** | -01592. |

## ТРАНСПАРТ

### ПРАДАЕЦЦА

• Аўдзі А4 В5, 1,9Д, авант, АБС, есп, ц/з, э/п, дажымы шкла, кліма, люк і іншае у добрым стане. Т. МТС (8-029) 7033145.*

• Аўдзі-100 С-4, 1991 г.в, 2,0 Б. Т. (8-029) 9902813.

• ВАЗ-2108,1996 г.в, дызель, 30 000 000 руб. Т. МТС (8-029) 7050972.

• ГАЗ-21, 1968 г.в. Т. (8-029) 9156731, (8-029) 2195845.

• ГАЗ-3307, 1993 г.в, у рабочым стане, 17 000 000 руб. Т. (8-029) 8739223.

• Дэу-Нэксі, 2005 г.в, Рэно-19, 1992 г.в. Т. (8-029) 1262762.

• Мазда-323F, 1,5 бензін, бардовы, 30 000 000 руб. Маладзечна. Т. (8-029) 7700560, (8-025) 5253294.

• Маленькае, але ўмяшчальнае аўто Toyota Yaris, 2003 г.в. Адзін гаспадар у РБ. Ездзіла крайне рэдка (прабег 136 000 км). Чыстая, акуратная і выдатная машына, у тэрмін абслугоўвалася. Тэлефануйце Алегу (8-029) 3672477.*

• Мерседэс-300Д, 1984 г.в, універсал, на хаду. Т. (8-0176) 763878, (8-044) 4997231, (8-029) 9098900.*

• Міцубісі-Карызма, 1995 г.в, 1,6 бензін, цёмна-зялёны, добры стан, нядорага. Т. Вэлком (8-029) 6865329, МТС (8-033) 6862629, (8-0176) 741879.*

• Сітраэн-Ксара, 2010 г.в, 1,9Д, хэтчбэк, 54 000 000 руб. Торг. Т. (8-033) 3136945.

• Сітраэн-Ксара па запчастках, 2000 г.в. Т. (8-029) 6653394.*

• ФВ Гольф-3, 1997 г.в, 5 дзвярэй, выдатны стан, 46 000 000 руб. Т. (8-029) 8739223.

• ФВ- Пасат Б5, 2000 г.в, 1,8 бензін, седан, усе опцыі. Т. (8-029) 2520005.

• ФВ Т-2, 1989 г.в, дызель 1,6, легкавы. Т. (8-029) 3187448.*

• ФВ-Гольф 2, 1985, 1,6 дызель, бэжавы, хэтчбэк, ТА, страхоўка, перавараны, 43 000 000 руб. Т.Вэлком (8-029) 3361655.

• Фокус-Форт, 2000 г.в, хэтчбэк, 1,8 ТДІ. Т. (8-029) 6814082, (8-044) 7576072.*

• Форд-Сіера, 1990 г.в, 2,0 бензін, няспраўная, рухавік, радыятар, 5 000 000 руб. Т. (8-029) 1205187.

• Форд-Скорпіё, 1990 г.в, 2,0Б, хэтчбэк, поўны электрапакет, добры стан, тэрмінова. Т. (8-033) 3214607.

• Хундай І-20 , 2010 г.в, з Германіі 1 год, цана 115 000 000 руб. Т. МТС (8-029) 2786035.*

• Запчасткі б/у да ФВ-Т2, 1987 г.в, 1,7Д, грузавы. Т. (8-029) 1294363, (8-029) 5651407.*

• **ЗАПЧАСТКІ ПА КУЗАВЕ АЎТО;** крылы, капоты, парогі, рам. устаўкі арак і іншых частак кузава, а таксама глушыцелі, бамперы, падкрылкі і шмат іншага. ІП Шыцік П.Л. УНП 191477481. Т. (8-029) 7640884, 707810.*

### КУПЛЮ

• **АЎТАМАБІЛЬ** у любым стане, хутка. Т. (8-029) 1261119, (8-029) 8714747.*

• **АЎТО Ў ЛЮБЫМ СТАНЕ, ДОРАГА! Т. (8-029) 5016186.***

• Аўтамабіль у любым стане. Т. (8-033) 6062301.*

• Аўто для сябе. Тэрмінова. Т. (8-029) 6510099.*

• Любое аўто на хаду. Грошы адразу. Т. (8-029) 7918210.*

## ПАСЛУГІ

• Паслугі міні-экскаватара, усе віды земляных работ. ІП Матусевіч Ю І. УНП 691397070. Т. (8-029) 6654868, (8-0176) 778888.*

• Паслугі экскаватара ЕК-14 (0,85 куб.м) і франтальнага пагрузчыка ТО-18Б. Дастаўка уласным тралам. ІП Вабішчэвіч І.В. УНП 690696017. Т. Вэлком (8-029) 3713335, МТС (8-033) 3131.*

• Міні-экскаватар, траншэі пад ваду, газ, падмурак і г.д. ІП Кроер А.Л. УНП 691397772. Т. (8-029) 6926052.*

• **МІНІ-ЭКСКАВАТАР**: усе віды земляных работ. ІП Жак А.А., УНП 691515498. Т. (8-044) 5522028.*

## НЕРУХОМАСЦЬ

### ПРАДАЕЦЦА

• 1-пакаёвая кватэра ў Маладзечне па вул. Скарыны, 2, нядорага. Т. (8-029) 6911995.*

• 1-пакаёвая кватэра ў Макладзечне. Т. (8-029) 6372633.*

• 2 сумежныя ўчасткі па 0,1040 га кожны ў садовым таварыстве "Дамашы", 1 км ад Маладзечна (напрамак – Смаргонь). Ёсць гаспабудовы. Цана дагаворная. Т. (8-029) 6365553 Вэлком. *

• 2-пакаёвая блакіровачная кватэра ў Маладзечне, 524 400 000 руб. Т. МТС (8-029) 7514223.

• 2-пакаёвая кватэра ў Маладзечне па вул. Скарыны, 14-а, 47,9/29,8/6. Т. (8-029) 6932184.*

• 2-пакаёвая кватэра ў драўляным доме. Т. МТС (8-029) 8775320.*

• 2-пакаёвая кватэра ў Маладзечне. Т. (8-044) 7576072.*

• 2-пакаёвая кватэра ў п. Чысць па вул. Багдановіча, 1-б, 1995 г.п, 2-гі паверх 4-павярховага дома, 52,4/30,5/8,2, 781 200 000 руб. Т. (8-029) 3604740.*

• 3-пакаёвая кватэра ў Маладзечне па вул. Вялікі Гасцінец, 119, цагляны дом 1980 г.п, 8/9 паверх, 64,4/39,1/7,7. Т. (8-029) 6411879.*

• 3-пакаёвая кватэра ў Маладзечне, прыватызаваная, 1 паверх, 62/39/9, часткова пакіну мэблю, 1 058 000 000 руб, торг. Т, (8-029) 3681413.*

• 3-пакаёвая кватэра ў цэнтры Валожына, 2/5 блок, лоджыя зашклёная 6 кв. м, 63/40/10, рамонт, с/в раздзельны, 777 600 000 руб, Тел. (8-044) 5133164.

• Гараж у ГБК №31 "Вялікасельскі" ў Маладзечне, на 2 машыны, плошча 75,9, з бетонным падвалам, цана дагаворная (нядорага). Т. (8-029) 8597976 МТС.*

• Дамы ў п. Партызанскім Вілейскага р-на: драўляны дом, 64 кв. м, 24 соткі, цэнтральнае ацяпленне; шлакабетонны дом, 84 кв.м, 13 сотак, цэнтральнае ацяпленне, усе выгоды. Т. (8-029) 8756247.*

• Дом у вёсцы, можна пад дачу. Гаспадарчыя пабудовы, лазня. Т. (8-029) 8062394, (8-033) 6466817.

• Дача ў в. Бяртошкі, 9 км ад Маладзечна, 25 сотак, лазня, гаспадарчыя пабудовы, новы калодзеж, 380 Вольт. Т. (8-029) 3811905.*

• Дом у в. Каравai, 10 км ад Смаргоні, 25 сотак. Т. (8-033) 3145632.

• Дом у в. Любань. Т. МТС (8-033) 6026288.*

• Дом у в.Цынцавічы Вілейскага р-на (можна на дачу), агарод, сад, калодзеж. Т. (8-029) 5644936.*

• Дом у Вілейцы, цагляны, цёплы, чысты, гараж, хлеўчык, участак. Т. (8-01771) 53739, (8-029) 7324445.

• Дом у Маладзечне па вул. Вілейскай,17, р-н Старое Места. 70 кв. м, газ, вада. Т. (8-029) 3333847.*

• Катэдж у Вілейцы, дом у в. Кузьмічы Вілейскага р-на. Т. (8-029) 7717436.

• Участак са старэнькім домам у Насілаве. Т. (8-0176) 542035.*

### МЯНЯЮ

• Дом + 1-пакаёвую кватэру ў Маладзечне на 2, 3-пакаёвую ў Маладзечне, варыянты, ці прадам. Дом 10 км ад г. Маладзечна па ходу эл. цягніка на Мінск. Т. (8-029) 8509515. Пасля 17.00 гадзін. *

### ЗДАМ

• 1-пакаёвую кватэру ў Маладзечне па вул. Ясінская. Т. (8-029) 3095054. Пасля 17.00 гадзін.

• Дом (частку дома) у цэнтры Івянца Валожынскага раёна: цагляны, 2-павярховы, з усімі выгодамі, 50 км ад Мінска. Т. (8-029) 7775357, (8-044) 7900079.*

• У арэнду магазін у Валожыне, у цэнтры горада. ІП Бандаравец А.А. УНП 690352380. Т. (8-029) 6109281.*

• У арэнду на доўгі тэрмін вытворчае памяшканне ў Вілейцы плошчай 400 кв.м. Т. (8-033) 3136896, (8-029) 6283849.*

### ІНШАЕ

• Прадам павільён недабудаваны ў Вілейцы па вул. Незалежнасці, каля Еўраопта. Т. (8-029) 5768392.*

## ПАСЛУГІ

### ДЛЯ МАЛАДЫХ

• Вяселлі. Юбілеі. Святочныя карпаратывы. Т. (8-029) 6188716.*

• Вясёлы тамада, жывая музыка, разумныя цэны.Т. (8-025) 5144071.*

### ФОТА-, ВІДЭАЗДЫМК

• АМ-Відэа. Відэаздымка і мантаж вясельных фільмаў, карпаратываў, мерапрыемстваў. Якасць HD. ІП Малько А.Г. УНП 691291314. Т. Вэлком (8-029) 8745891.*

• Фота і відэаздымка вяселляў, аблічбоўка відэакасет. ІП Чарняўскі С.В. УНП 691396671. Т. (8-029) 3305452, (8-029) 7686148.*

### ГРУЗАПЕРАВОЗКІ

• Мерседэс - 412, 2,5 т, 20 куб.м. Санпашпарт. Без выхадных. ІП Габрыновіч А.В. УНП 691885058. Т. (8-029) 7015520.*



















## Прыём дробных аб'яў

| | |
|---|---|
| **Маладзечна** | Вялікі Гасцінец, 68а. Тэл. **753841, 769667.** |
| **Астравец** | вул. Ленінская, 5, аддзяленне сувязі 1. Тэл. **21140.** |
| **Ашмяны** | вул. Савецкая, 97, пошта. Тэл. **45211.** |
| **Валожын** | вул. 1 Мая, 3, пошта. Тэл. **55542, 55237.** |
| **Вілейка** | вул. Партызанская, 44, магазін «Парус». Тэл. **20083.** |
| **Вілейка** | вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. **55233, 55539.** |
| **Мядзел** | вул. 17 Верасня, 2, пошта. Тэл. **55266, 55431.** |
| **Смаргонь** | вул. Танкістаў, 8 (насупраць ваенкамата). Тэл. **33077.** |
| **Чысць** | вул. Зялёная, 4, магазін «Канцкласік». Тэл. **799172.** |

* *Аб'явы, адзначаныя зорачкай, змешчаны ў Інтэрнэце на сайце rh.by*

● КОНКУРС "РГ"




# У конкурсе "Раскажы пра свой рамонт" трое ўдзельнікаў

**На конкурс "Рэгіянальнай газеты" "Раскажы пра свой рамонт" даслалі тры гісторыі. Марыя з Маладзечна, Марыя з Мінска і настаўніцы Ільянскай школы Аксана Ярашонак і Тацццяна Максімовіч.**

Галасаванне за пераможцу распачынаецца 11 сакавіка на нашым сайце rh.by. На ім будуць размешчаныя ўсе тры гісторыі. У папяровай версіі "РГ" у гэтым нумары мы друкуем дзве гісторыі, у наступным – гісторыю Марыі з Мінска.

"Рэгіянальная газета" ў сваім новым конкурсе для чытачоў вырашыла падтрымаць смельчакоў, якія ў няпросты час робяць рамонт.

Ад 11 да 16 сакавіка адбудзецца галасаванне. А 18 сакавіка мы запросім пераможцу на ўзнагароджанне.

Прызы пераможцам прапануюць спонсары конкурсу "Раскажы пра свой рамонт".

**ІП Алег Валянцінавіч Шульжыцкі** дае сертыфікат на скідку 500 тысяч рублёў на любы тавар катэгорыі "Мэбля" ў студыі мэблі "Інтэк".

**ІП Таццяна Леанідаўна Бойка** прапанавала сертыфікат на скідку 500 000 рублёў на спадарожнікавую антэну.

**ТАА "Саюра"** дае сертыфікат на скідку на вокны ПВХ. На пакупку аднаго акна скідка складзе 250 000 рублёў. На пакупку двух акон скідка складзе 450 000 рублёў. На пакупку ад трох акон скідка складзе 600 000 рублёў.

Усе сертыфікаты дзейнічаюць да 1 ліпеня.

**Аддзел інфармацыі.**

# Мая спальня віннага колеру

**Рамонт – гэта сур'ёзна, гэта выпрабаванне сям'і на трываласць. Але ўсе гэтыя часовыя пакуты кампенсуюцца ўтульнасцю, прыгажосцю, адчуваннем таго, што ты ўсё ж змог гэта зрабіць.**

Рамонт спальні мы рабілі ў студзені 2013 года. Вось ужо тры гады прайшлі, а мне і сёння прыемна знаходзіцца ў гэтым пакоі. Усё рабіў муж сваімі рукамі.

Пакой невялікі, 14 кв.м, выцягнуты. Першае, з чаго пачаў, вырайняў столь. Пліты ляжалі няроўна, і прыйшлося добра паваждацца. Прыклеілі шырокі плінтус і пасля пафарбавалі белай "Снежкай".

З падлогай работы было яшчэ больш. У нас ляжаў першапачаткова сасновы паркет, але ён скрыпеў-рыпеў, патрэскаўся і паадвальваўся. Прыйшлося ўмацаваць лагі, пакласці чарнавую падлогу і новы паркет – дубовы. Яго купілі на паркетнай фабрыцы ў Заслаўі, некандыцыю. Трэба было падбіраць дошчачкі, шліфаваць і пакрываць лакам. Запрасілі майстра, каб пашліфаваў. Работы хапіла, але вынік перасягнуў нашы чаканні, падлога атрымалася проста супер. Па ёй прыемна хадзіць босымі нагамі, выглядае таксама на ўсе сто.

Сцены таксама параўнялі. Чаму параўнялі, бо зрабіць іх роўнымі было немагчыма. Прасцей было цалкам разабраць перагародку, бо яна вельмі крыва пакладзеная, і вывесці нанова. Але гэта затратна і не варта таго. Пасля паклеілі нямецкімі шпалерамі. Калі куплялі іх, былі ў захапленні, але як паклеілі, то выйшла тое, што выйшла. Я люблю ружова-бурачковыя колеры і ўсе іх адценні, таму не перажываю з-за гэтага.

Распланавалі і вывелі, дзе трэба, разеткі, бо была адна на ўсю спальню.

Мэблю – спальны гарнітур "Рамонак" (ложак, шафа, дзве тумбачкі і камод) – купілі ў магазіне "Маладзечнамэбля". Усё добра ўпісалася. Матрац артапедычны.

Шторы, гардзіны і пакрывала з падушкамі на ложак заказала ў павільёне на Цэнтральнай плошчы. Дзякуй ім, пашылі добра, я была задаволеная.

Люстра і настольныя лямпы італьянскага вытворцы "пераехалі" са старога інтэр'ера. Хацелі купіць нешта новае, ды не знайшлі тое, што вельмі б спадабалася. А мяняць шыла на мыла...

Карціну над ложкам, габелен, нам падарылі, яна, згодна з фэн-шуем, самы лепшы варыянт для спальні.

Побач – ікона Божай Маці, вышытая бісерам. Гэта падарунак маёй сяброўкі.

Карціна над камодам – вышыванка – падарунак маёй сястры. Вешалка з пацеркамі – hand made, для настрою, і зручна.

Тэлевізар у спальні – для мяне ён як снатворнае, уключыў, трохі паглядзеў, выключыў і заснуў. Зручна паглядзець у выхадныя якінебудзь добры фільм. У нас падключаная ЗАЛА, можна глядзець з інтэрнэта, флэшкі.

Акно не мянялі, бо ўжо раней уставілі драўляны шклопакет, памянялі толькі падаконнік.

Грошы, якія пайшлі на рамонт (цэны ў рублях 2013 года):

Мэбля – 21 340 000

Тэлевізар – 6 000 000

Шпалеры – 1 550 000

Будматэрыялы, разеткі, провад – 1 332 000

Паркет і ўсё, што спатрэбілася для падлогі – 3 702 000

Шліфаванне паркету – 350 000

Артапедычны марац – 2 691 000

Карніз – 350 000

Гардзіны, шторы і пакрывала – 2 780 000

У выніку спатрэбілася 40 мільёнаў з маленькім хвосцікам. На той час быў курс долара 8 909, то выйшла 4 з паловай тысячы долараў. Гэта нямала, на сёння я на такую рамонтную авантуру ўжо не пайшла б.

Здымкаў, як было раней, на жаль, няма.

**Марыя з Маладзечна.**


Фота забеспечана Марыяй з Маладзечна.

Спальня Марыі з Маладзечна.

# Новая дошка як частка рамонту ў класе

**Сакрэты новай дошкі ад вучняў 4 класа Ільянскай сярэдняй школы імя Грымаця.**

Напэўна, для многіх з нас 1 верасня асацыюецца з белымі бантамі, кветкамі, усмешкай настаўніцы, а яшчэ з ледзь улоўным пахам свежай фарбы. Так прыемна прайсціся па абноўленай бліскучай падлозе, прабегчы па калідоры з яркімі сценамі, паскакаць па свежапафарбаваных прыступках!

Пачатак мінулага навучальнага года запомніўся вучням 4 класа не толькі свежасцю, чысцінёй і пафарбаванасцю, а яшчэ і новай сучаснай дошкай.

– Дзеці, як вам "абноўка"? Падабаецца? – пытаемся ў вучняў.

– Падабаецца! Старая дошка была сумнага карычневага колеру, – адказвае **Юля Каржэвіч** і дадае шэптам: – І нават крыху падрапаная…

– І хто ж яе падрапаў? – пытаемся строга.

– Не мы! Не мы! – хорам крычыць чацверты клас. – Гэта, напэўна, яшчэ нашы папярэднікі.

– Новая дошка прыгожая, зялёненькая. Да яе можна чапляць магніты, – працягвае **Косця Кандрашоў.**

– На ёй і крэйда лепш піша, – падтрымлівае аднакласніца **Юля Ярашонак.**

– Старая была зусім для маленькіх, на ёй нават былі пазначаныя клеткі і лінейкі. А мы ж ужо вялікія: можам пісаць без клетак і лінеек, – уключаецца ў размову **Лізавета Хаванская.**

І тут агульнакласны фізік-вынаходнік-эксперыментатар **Назар Каралёў** "забівае" сваім назіраннем:

– А ведаеце, калі ў школу прынесці вялікі цвік і правесці ім па дошцы, будзе такі непрыемны гук! – і, бачачы нешта нядобрае ў вачах настаўніка, спяшаецца дадаць: – Толькі я ў школе так не раблю, я дома эксперыментую.

Здаецца, больш "забойнага" адказу ўжо не будзе. Але, не. **Аня Бабовіч** знайшла школьнай дошцы новае прымяненне:

– Ведаеце, калі дошку добра памыць, у ёй відаць наша адлюстраванне. Таму можна глядзець на дошку, адной рукой пісаць, а другой… фарбаваць вусны! (сапраўды, вельмі актуальна для чацвертага класа).

– А ці робіцца на новай дошцы памылкі? – пытаемся.

– У каго як… – уздыхаючы адказвае **Паша Мікуцкі.**

– Так… Наша дошка прыгожая і сучасная, але… не чароўная, – падтрымлівае свайго вучня настаўніца **Таццяна Пятроўна Максімовіч.**


Фота забеспечана Аксанай ЯРАШОНАК.

Вучаніцы каля новай дошкі.

**Таццяна МАКСІМОВІЧ, Аксана ЯРАШОНАК і вучні 4 класа Ільянскай сярэдняй школы імя Грымаця.**

# Даўгінава

## падчас Другой сусветнай вайны

ВІЛЕЙКА

**Перад вамі пачатак публікацыі нашага земляка гісторыка Аляксандра Плавінскага, прысвечанай фрагменту гісторыі Даўгінава. У хуткім часе пабачыць свет кніга гэтага аўтара пра Даўгінава.**




На ўездзе ў Даўгінава Вілейскага раёна.

Мы ж прапануем газетны варыянт працы навукоўца.

У публікацыі шмат новых фактаў і імёнаў, якія праліваюць свет на найбольш складаны перыяд у гісторыі нашага краю. Аўтар, верны навуковаму падыходу, не робіць нейкіх суб'ектыўных ацэнак і высноў.

### Новы парадак

Аб дзеяннях партызан на прасторах Вілейшчыны ў 1940-х было напісана досыць шмат. Большасць аўтараў абмяжоўвалася стандартнымі штампамі – апісаннем бяспрыкладнага гераізму, цяжкасцяў барацьбы з акупантамі, усямернай падтрымкі мясцовым насельніцтвам партызанскага руху і паўсюднага кіраўніцтва камуністычнай партыяй.

За выразна пазначанымі межамі дапушчальнай інфармацыі заставалася мноства падрабязнасцяў пра тую страшную і жорсткую вайну. Пры дэталёвым вывучэнні архіўных дакументаў адкрываюцца ўсё новыя і новыя бакі барацьбы і жыццядзейнасці партызан і мірнага насельніцтва, у тым ліку непасрэдна звязаныя з мястэчкам Даўгінава.

З адступленнем савецкіх войскаў і імклівым набліжэннем лініі фронту да Даўгінава ў мястэчку пачаліся масавыя рабаванні крамаў, якія паранейшаму заставаліся запоўненымі савецкімі таварамі. У першую чаргу марадзёры ўзяліся за прадукты харчавання і алкаголь. Але ў самы разгар рабавання замест немцаў у мястэчка заехалі тры савецкія танкі, якія адступалі. Гэта было вялікай нечаканасцю, ніхто не ведаў адкуль яны ўзяліся.

Ваенныя адразу ж пачалі наводзіць парадак. Паколькі загады і ўгаворванні чырвонаармейцаў не падзейнічалі, па рабаўніках адкрылі агонь на знішчэнне. Марадзёры кінуліся разбягацца. Але некаторыя з іх былі параненыя, а адзін забіты.

Сабраўшы на плошчы народ, афіцэр сказаў перад мясцовымі жыхарамі палымяную прамову і запэўніў, што непазбежна прыйдзе дзень расплаты над фашысцкімі акупантамі! Затым чырвонаармейцы вярнуліся да тэхнікі і пасля паўдня пакінулі цэнтральны рынак Даўгінава. Наступнае з'яўленне Чырвонай Арміі ў мястэчку было толькі ў 1944 годзе.

Мясцовыя жыхары надоўга запомнілі захапленне і святочную радасць местачкоўцаў, якія выйшлі 1 ліпеня 1941 года за межы мястэчка з хлебам-соллю і кветкамі сустракаць нямецкія войскі як самых паважаных гасцей. Сотні жыхароў Даўгінава і навакольных вёсак сабраліся на базарнай плошчы, каб адсвяткаваць дзень вызвалення ад камуністаў.

**Многія жанчыны сустракалі немцаў з кветамі. Аднак ніхто з яўрэяў у тым свяце не ўдзельнічаў. Яны ведалі: гэта свята не для іх.**

З першых дзён акупацыі немцы сталі паўсюдна прызначаць на грамадзянскія кіруючыя пасады палякаў. Так звычайна называлі мясцовых жыхароў каталіцкага веравызнання, якія размаўлялі на польскай мове. У асноўным да іх адносіліся стральцы, кракусы і іншыя члены польскіх нацыяналістычных арганізацый. Часам гэта былі вяртанцы з Польшчы, людзі, якія паспелі збегчы ад савецкай улады ў пачатку Другой сусветнай вайны, гэта значыць "пры тых Саветах".

З прыходам немцаў бургамістрам воласці і камендантам быў прызначаны Сігізмунд Воўк, мясцовы жыхар, які хаваўся пры савецкай уладзе ад высялення. Яго памочнікам стаў Юзаф Чаховец (22 гады), бацькі якога былі высланыя пры савецкай уладзе.

Начальнікам паліцыі прызначылі Антона Антонавіча Красоўскага (1914 года нараджэння). Да прыходу немцаў ён хаваўся ад савецкай улады. Мясцовыя яўрэі характарызавалі гэтага чалавека, як "прыстойнага хрысціяніна". Каб атрымаць яго добразычлівасць, дастаткова было прынесці бутэльку гарэлкі ці самагонкі. За такую сімвалічную плату ён звычайна браўся вырашаць тую ці іншую праблему мясцовых жыхароў.

У падпарадкаванне да Антона Красоўскага ў мясцовую паліцыю пайшлі служыць: Вацлаў Маслоўскі, 23 гады, сын ветфельчара; Стась Голуб, 30 гадоў, па прафесіі пячнік; Савіцкі і Ляшковіч (імёны не ўстаноўленыя), якія раней хаваліся ад органаў савецкай улады; Адольф Леанідавіч Каспяровіч, 28 гадоў, селянін; Антон Млечка, арганіст касцёла, да прыходу немцаў ён хаваўся ад правасуддзя савецкай улады; Юзаф Клімчук, 30 гадоў; Фэлька Ганчук, 28 гадоў.

Былы валасны пісар Уладзімір Літвінюк кіраваў тайнай паліцыяй воласці.

Асабліва вызначылася перад немцамі Тэніка Яшаўна Кунцэвіч. Яна тады адпомсціла камуністам за мужа, які быў высланы пры савецкай уладзе. Кунцэвіч стала адным з самых актыўных памагатых акупантаў, яна выдала немцам начальніка міліцыі Даўгінава – Садара, старшыню сельскага Савета А. І. Казака, сакратара сельскага Савета Шмуіла Сагановіча і Фёдара Панховіча. У выніку яе ўчынка ў ліпені 1941 года былі расстраляныя актывісты камуніст Сяргей Гідрэвіч, старшыня пасялковага Савета А. І. Казак, старшыня сельсавета П. С. Шадыра, начальнік міліцыі і многія іншыя.

З прыходам немцаў па Даўгінаўскай воласці ў сферы сельскай гаспадаркі быў праведзены шэраг змяненняў. Зямлю, якая была ў яўрэйскага насельніцтва, канфіскавалі. Частку яе перадалі заможным сялянам, астатнюю прырэзалі да маёнткаў былых польскіх памешчыкаў. Дарэчы, заможнае сялянства з прыходам немцаў атрымала зямлю, адабраную ў яго пры савецкай уладзе, але не больш за 100 гектараў на гаспадарку.

Маёнткі і землі, якія належалі польскім памешчыкам, немцы ўзялі ў сваё распараджэнне, прызначыўшы кіраўнікоў. У Крывіцкім раёне яны арганізавалі два дзесяткі такіх маёнткаў, якімі кіравала група нямецкіх афіцэраў-гаспадарнікаў, што былі пры камендатуры ў Крывічах.

У Даўгінаўскай воласці былі чатыры маёнткі з агульнай плошчай ворнай зямлі 1.150 гектараў. Да іх прымацавалі па некалькі вёсак, сяляне якіх апрацоўвалі гэту зямлю.

**Аляксандр ПЛАВІНСКІ,**
**гісторык.**

**Працяг будзе.**

● КАЛЯНДАР

**11 САКАВІКА**

**1941 год.** У савецкім зняволенні (ст. Марыінск Кемераўскай вобласці) загінуў Аляксандр Уласаў, грамадска-культурны дзеяч, выдавец, публіцыст.

**12 САКАВІКА**



**1851 год**. Памёр Ян Баршчэўскі, пісьменнік, выдавец, адзін з пачынальнікаў новай беларускай літаратуры. Пахаваны ў г. Чуднаў на Валыні. Як паэт склаўся пад уплывам польскага класіцызму. Захапленне паэзіяй Міцкевіча адбілася на яго польскіх творах (паэма "Жыццё сіраты", санеты "Мелодыі пілігрыма"). Асноўным тварэннем аўтара з'яўляецца зборнік фантастычных твораў з жыцця беларускай глыбінкі "Шляхціц Завальня, або Беларусь у фантастычных апавяданнях" у 4-х тамах (1844–1846). Творы напісаныя пад відавочным уплывам беларускага народнага фальклору. Апавяданні Баршчэўскага нагадваюць сваім містычным настроем творы Гогаля. Большая частка твораў напісаная на польскай мове, аднак у іх пісьменнік звяртаецца да беларускіх паданняў, фальклорных сюжэтаў і вобразаў ("Дзве бярозы", "Курганы", "Зарослае возера" і інш.). Захаваліся толькі тры яго творы, напісаныя аўтарам непасрэдна па-беларуску: "Дзеванька", "Гарэліца", "Бунт хлопаў". Некалькі легендаў са "Шляхціча Завальні..." былі перакладзены і выдадзены ў 1916 годзе ў газеце "Гоман" у Вільні. Цалкам жа твор быў перакладзены і выдадзены на беларускай толькі ў 1990 годзе.

**14 САКАВІКА**

**110 гадоў** з дня нараджэння Лідзіі Мухарынскай (1906–1987), музыказнаўца, фальклярыста, заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі.

**85 гадоў** з дня нараджэння Паўла Міська (1931–2011), беларускага пісьменніка.

**15 САКАВІКА**

**Дзень Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь.**

**17 САКАВІКА**

**270 гадоў** з дня нараджэння Яна Давіда Голанда (1746–1827), прыдворнага кампазітара ў Радзівілаўскім тэатры ў Нясвіжы, аўтара камічнай оперы "Агатка, або Прыезд пана".

**1951 год.** Памёр Альберт Паўловіч, паэт-гумарыст, драматург.

**Марыя БЕРАСНЕВА.**




Дзяжурная па пераездзе Людміла Ляшчынская сустракае цягнікі паднятым угору жоўтым сцяжком.

# Я размаўляла з цягніком: не едзь, па

МАЛАДЗЕЧНА

**Пераезд ля мясакамбіната закрыты. Колькі няздручнасцей гэта выклікае ў кіроўцаў і пасажыраў. Але і тым, і другім даводзіцца моўчкі назіраць, як дзяжурная па пераездзе выходзіць насустрач цягнікам, падымае ўгору жоўты сцяжок і праводзіць позіркам шматвагонныя саставы.**

Дзяжурную па пераездзе завуць **Людміла Ляшчынская**, і яна ўжо 28 гадоў нязменна падымае сцяжок цягнікам, каб паказаць, што на яе пераездзе ўсё ў парадку.

– Каб жа моўчкі ўсе чакалі, пакуль адкрыецца пераезд. Некаторыя прыходзяць і сварацца, – расказвае Людміла. – Быў выпадак, калі мужчына ўскочыў ў памяшканне і стаў патрабаваць адкрыць пераезд. Я яму тлумачу, што цягнік не прымае станцыя, мы не можам адкрыць. Ды хіба ім патлумачыш?

Гэта на першы позірк здаецца, што дзяжурная па пераездзе толькі позіркам праводзіць цягнікі. Насамрэч яна ўважліва сочыць, ці ў парадку тэхнічны стан саставу, ці паралельна ў іх ідуць пары колаў, ці гарыць у хвасце цягніка святло. Калі раптам нешта з гэтага не працуе, дзяжурны па пераездзе мусіць паведаміць дзяжурнаму па станцыі і запісаць няспраўнасць у спецыяльны журнал.

А машыніст цягніка, каб паказаць, што ў яго ўсё ў парадку, дае гукавы сігнал.

У дзень праз пераезд ля мясакамбіната праходзіць больш за сотню розных цягнікоў. Мінскі напрамак самы загружаны.

– А дадайце да гэтага яшчэ грузавыя, раскладу якіх мы не ведаем. Бывае, што запар могуць праходзіць аж пяць цягнікоў. Тады пераезд зачыняецца амаль на гадзіну. Бывае, што састаў не прымае станцыя. Я гэта разумею па чырвоным святле, які загараецца на семафоры. І ў гэтым выпадку цягнік стаіць доўга.

Пакуль мы гутарым з Людмілай, праз кожныя хвілін пятнаццаць спрацоўвае сігнал і апускаецца шлагбаўм.

**Шлагбаўм на пераездзе апускаецца аўтаматычна.**

– Калі цягнік першымі коламі трапляе на ўчастак набліжэння, які знаходзіцца недзе за кіламетр да пераезда, у нас уключаецца гукавы сігнал і апускаецца шлагбаўм. Уручную гэтага рабіць не трэба.

Але на пераездзе, бывае, здараюцца сітуацыі, калі кіроўцы на грузавых машынах або аўтобусах ламаюць, зносяць шлагбаўм.

– Гэта адбываецца таму, – тлумачыць Людміла, што цягнік праязджае, шлагбаўм пачынае падымацца аўтаматычна, і кіроўцы, не заўважаючы таго, што гукавы сігнал яшчэ не выключыўся, пачынаюць пераязджаць пераезд. А ў гэты час у зону пераезда ўязджае другі цягнік, і шлагбаўм пачынае апускацца зноў. Калі маленькая машынка праскочыць яшчэ, то вялікія наўпрост зносяць шлагбаўм.

### Больш за ўсё баюся п'яных і падлеткаў у навушніках

Работа, прызнаецца Людміла, у яе спакойная, але за 28 гадоў працы здаралася рознае.

Даводзілася ўключаць сігнал агульнай трывогі, калі на пераездзе раптам заглухла машына. Але адзін на адзін з цяжкасцямі не заставалася, заўсёды іншыя кіроўцы прыходзілі на дапамогу.



Фота Настассі РОЎДЫ.



Фота Настассі РОЎДЫ.

Людміла Ляшчынская працуе дзяжурнай па пераездзе ўжо 28 гадоў.



Фота Настассі РОЎДЫ.

Мінскі напрамак – самы загружаны. У суткі тут праходзіць больш за сотню цягнікоў.



Фота Настассі РОЎДЫ.

Тэхніка ў будцы дзяжурнай па пераездзе нескладаная: рацыя ды тэлефонны апарат без кнопак для звязвання з дзяжурным па станцыі.



Фота Настассі РОЎДЫ.

Шлагбаўмы на пераездзе падымаюцца аўтаматычна. Галоўнае, не рухацца, пакуль не пагасне семафор, бо здараецца, што шлагбаўм можа і апусціцца зноў.



Фота Настассі РОЎДЫ.

Людміла Ляшчынская дэманструе, што даводзіцца рабіць, калі пераезд трэба тэрмінова закрыць.

# стой, хай мужчына пералезе

– Бывала, што падбягалі і машыну выпіхвалі з пуцей. Але я больш за ўсё баюся п'яных, ім жа нічога не дакажаш. І яшчэ падлеткаў, якія пераходзяць пуці ў навушніках. У іх жа музыка ў вушах гучыць, а што навокал робіцца не чуюць.

Быў у Людмілы выпадак, калі цягнік спыніўся на пераездзе і доўга стаяў. А ля пуцей хадзіў нецвярозы мужчына, відаць было, што ён спяшаецца перайсці на другі бок. Чакаў, нерваваўся і раптам палез пад колы цягніка.

– А мужчына малады, апрануты ў белую кашулю, у белыя штаны. І палез пад цягнікам, па мазуце.

> А я назіраю за гэтым з супрацьлеглага боку і ў думках размаўляю з цягніком: стой, толькі не едзь, пачакай, хай ён ужо пералезе. Пералез. Праз хвілін пяць цягнік адправіўся. Я ўздыхнула з палёгкай.

Успамінае Людміла і выпадак, калі да яе ў будку завітаў нечаканы госць.

– Даўно гэта было. І цяпер здаецца, што няпраўда, – смяецца Людміла. – Сяджу я спінай за дзвярэй. І чую, што нехта зайшоў. А страшна павярнуцца, так страшна, у мяне ажно ўсе блохі падохлі. Але набралася смеласці, паварочваю галаву – стаіць мужчына. Я за тэлефон. А ў нас тут тэлефон без кнопак, прыкідваюся, што дзяжурнаму тэлефаную. Мужчына спалохаўся, сеў на ровар і паехаў.

А ў зменшчыцы **Кацярыны** на змене летась смяротны выпадак быў.

– Хадзіў мужчына цэлы дзень каля пераезда. Малады, гадоў 45, добра апрануты. Паставіў сваю машыну на абочыне. Спытаўся ў Каці, калі цягнік будзе ісці. Хто ж ведаў, што калі пойдзе цягнік, а гродзенскія яны хутка едуць, кіламетраў пад 80 у гадзіну, ён выйдзе на рэйкі, раскіне рукі і будзе чакаць. Яго цягнік тады моцна адкінуў. Загінуў мужчына на месцы. Ну як такія выпадкі прадугледзіш?

Людміла гаворыць, што на яе рабоце асаблiва і не расслабішся.

– Але я прывыкла за столькі гадоў. І ноччу: возьмеш ліхтарык і ходзіш, аглядаеш пуці. Памятаю, калі адпачывала ў Грузіі, бачыла, як дзяжурны па пераездзе сабраўся і пайшоў за хлебам. У нас такога я нават уявіць не магу, каб пакінуць свой пост. А калі ехала цягніком на Поўнач, там дачка жыве, заўважыла, што ў Расіі ля пераездаў разам з тым, як апускаецца шлагбаўм, адначасова апускаецца спецыяльная агароджа, каб машыны не маглі нават наблізіцца да пуцей. Вось бы ў нас так зрабілі.

А кожны свой працоўны дзень Людміла Ляшчынская пачынае з аднаго:

– Іду на змену і пра сябе паўтараю: хаця б сёння было ўсё добра і абышлося без здарэнняў.



**Наталля ТУР**
natali.turenok
@gmail.com
8-044-
566-26-99
(працоўны)

НАВІНЫ

## Ашмянцы ўстанаўліваюць рэкорд Еўропы

АШМЯНЫ

У складзе зборнай Беларусі ашмянцы ўдзельнічаюць у чэмпіянаце Еўропы па класічным паўэрліфтынгу ў эстонскім Тарту. І паспяхова. **Крысціна Шлыковіч** 5 сакавіка заняла трэцяе месца ў вагавой катэгорыі да 57 кілаграмаў. **Аліна Чашчына** перамагла ў вагавой катэгорыі да 43 кілаграмаў. Да таго ж яна ўстанавіла рэкорд Еўропы ў станавой цязе. Зборная каманда Беларусі сярод дзяўчат да 18 год заняла другое месца.

**Альберт Станкевіч** заняў чацвертае месца ў вагавой катэгорыі да 53 кілаграмаў і дапамог зборнай заняць другое агульнакаманднае месца.

– У Эстоніі нам вельмі спадабалася, – падзяліўся ён. – Чэмпіянат арганізаваны на добрым узроўні.

Усе трое выступалі ў дывізіёне Subjuniors.

Яшчэ адзін ашмянец, **Аляксандр Вараб'ёў**, павінны быў выступіць у чацвер.

## "Ашмяны" абыгралі "Смаргонь"

СМАРГОНЬ, АШМЯНЫ

У Смаргоні 5 сакавіка прайшоў таварыскі матч паміж ФК "Смаргонь" і "Ашмянамі". Госці павялі ў матчы, потым забілі з пенальці другі гол. Усё, што змаглі зрабіць смаргонцы, таксама з пенальці ў канцоўцы матча скараціць адставанне ў ліку. Вынік – 2:1 на карысць "Ашмянаў", паведаміў прэс-аташэ "Смаргоні" **Уладзімір Амбрасевіч**.

## На турніры па валейболе перамагла каманда ЖКГ

ВІЛЕЙКА

У цэнтры "Надзея" прайшоў штогадовы турнір па валейболе на прызы дзіцячага цэнтра "Надзея". Праводзілі яго ў 14-ы раз. За медалі змагаліся сем мужчынскіх камандаў устаноў, прадпрыемстваў і арганізацый Вілейскага раёна.

Адразу адбыліся гульні ў групах, а потым прызавыя месцы размеркавалі чатыры лепшыя каманды.

Першае месца заняла каманда Вілейскай ЖКГ. Другое месца – у "Першага Беларускага". На трэцім – каманда цэнтра "Надзея", расказала вядучы спецыяліст па сувязях з грамадскасцю цэнтра "Надзея" **Таццяна Майсак**.

## Смаргонцы згулялі ўнічыю

СМАРГОНЬ, АШМЯНЫ, АСТРАВЕЦ

У вышэйшай лізе чэмпіянату Гродзенскай вобласці па міні-футболе "Вілія" са Смаргоні дома 6 сакавіка згуляла ўнічыю з "Фарсажам" са Слоніма 7:7.

– Пачатак таймаў у нас не атрымоўваўся: што ў першым, што ў другім прапускалі спачатку па два мячы. Потым ужо адыгрываліся і выходзілі наперад, – распавёў гулец "Віліі" **Віталь Будай**. – За хвілін 10 да канца вялі ў ліку 7:5, але не ўтрымалі перамогу.

"Ашмяны" дома прайгралі "Энергіі" з Зэльвы 2:7. За два туры да заканчэння чэмпіянату "Вілія" займае чацвертае месца. "Ашмяны" з нулём ачкоў – на апошнім.

У першай лізе "Меліяратар" з Астраўца прайграў у гасцях лідару, "Беллакту", 3:10 і заняў трэцяе месца ў выніковай табліцы.

## Зафіксавалі самы буйны выйгрыш – 19:0

МЯДЗЕЛ

Матчы сёмага тура ў чэмпіянаце раёна па міні-футболе прайшлі 4 сакавіка. Каманда Крывіцкага спецПТВ №3 закрытага тыпу разграміла "Юніён Нарач" – 19:0. Гэта пакуль самы буйны выйгрыш у чэмпіянаце.

"Спадарожнік" перайграў прадстаўнікоў аддзела адукацыі, спорту і турызму 3:1. "Зубраня" перамагла каманду райвыканкама – 10:3.

Прынцыповым выдаўся матч паміж двума прэтэндэнтамі на выхад у фінальную чацвёрку – "Сілавіком" і "Юнацтвам".

У перанесеным матчы "ІП Мядзел" абыграў каманду Крывіцкага спецПТВ №3 закрытага тыпу – 6:2.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

## Вілейскія міліцыянеры – другія ў вобласці па рукапашным баі

ВІЛЕЙКА

Прайшоў чэмпіянат па рукапашным баі сярод супрацоўнікаў падраздзяленняў УУС Мінщчыны. Спаборніцтвы праходзілі ў сямі вагавых катэгорыях. Прынялі ўдзел 24 каманды.

Каманда Вілейскага РАУС стала сярэбраным прызёрам чэмпіянату.

**Алена БЯРОЗАВІК,**
**аддзяленне інфармацыі і грамадскіх сувязяў УУС Мінаблвыканкама.**



Момант з апошняй дамашняй гульні маладзечанцаў. Лядовы палац, 4 сакавіка.

Фота hcdinamo.by.

# "Дынама-Маладзечна" пакідае плэй-оф чэмпіянату краіны

МАЛАДЗЕЧНА

**Разгромны лік 0:6 у заключным сёмым матчы серыі плэй-оф супраць гродзенскага "Нёмана" ставіць кропку ў сезоне 2016 для падначаленых Дзмітрыя Краўчанкі – каманды "Дынама-Маладзечна".**

Варта адзначыць, што матч, які адбыўся ў Лядовым палацы ў пятніцу, 4 сакавіка, мог бы быць вырашальным для маладзечанцаў. У выпадку перамогі дынамаўцы маглі б апынуцца ў паўфінале чэмпіянату краіны.

Маглі б. Але дамашнюю гульню маладзечанцы прайгралі ўсухую – 2:0.

Як вынік, нічыя ў серыі. І сёмы матч у Гродне.

Першы перыяд спраздачнай сустрэчы прайшоў з невялікай перавагай гаспадароў. Гродзенцы практычна ў кожнай сваёй вылазцы да варотаў маладзечанцаў прымушалі ўступаць галкіпера **Віталя Бялінскага** ў гульню. Але не выратаваў галкіпер каманду ў першым перыядзе толькі адной чы. **Павел Баярчук** падабраў шайбу каля борта, выехаў на пятак і дакладным кідком адкрыў лік у матчы. Дынамаўцы маглі адыграцца ў большасці, але абедзве перавагі ў колькасці гульцоў ні да чаго не прывялі.

На старце другой дваццаціхвілінкі гаспадары падвоілі сваю перавагу. "Зубры" паспрабавалі былі адыграцца, але замест гэтага прыйшлося абараняцца ў меншасці. Крыху пазней "бела-сінія" маглі адну шайбу адыграць – не атрымалася. А вось у гаспадароў закінуць, прычым двойчы, атрымалася. На перапынак каманды сыходзілі зусім з сумным для дынамаўцаў лікам – 0:4.

У заключнай трэці дынамаўцы кінулі ўсе сілы, каб адрадзіць інтрыгу. Але адыграць у гасцях у "Нёмана" чатыры шайбы – задача не з лёгкіх. Як ні стараліся падапечныя Дзмітрыя Краўчанкі, дагнаць гаспадароў не ўдалося. Сезон для маладзечанцаў, на жаль, завершаны.

У пасляматчавай прэс-канферэнцыі галоўны трэнер "Дынама-Маладзечна" Дзмітры Краўчанка сказаў:

– Нам няма чаго было супрацьпаставіць, прапусцілі хуткія галы. Гаспадары ўдала закінулі, выкарыстоўваючы нашы памылкі. "Нёман" давёў матч да перамогі. Гульня атрымалася нервовай, імпульсіўнай. Вельмі складана было супакоіць хлопцаў. Магчыма, трэба было ўзяць паўзу для адпачынку раней, але прынялі рашэнне ўзяць яе ў канцы, каб зачапіцца хаця б за адзін гол. На жаль, прапусцілі ў свае вароты.

**Наталля ТУР.**

## Ільянскія хакеісты заваявалі пуцёўку на "рэспубліку"

ВІЛЕЙКА

**Ад 22 да 27 лютага ў Маладзечне адбыліся спаборніцтвы па хакеі сярод дзяцей і падлеткаў "Залатая шайба".**

У спаборніцтвах бралі ўдзел каманды Слуцкага, Салігорскага, Барысаўскага, Вілейскага і Маладзечанскага раёнаў. Каманду Вілейскага раёна прадстаўлялі вучні Ільянскай сярэдняй школы імя Грымаца.

Асабліва вызначылася малодшая група нашых вучняў 2003-2004 гадоў нараджэння, якая заняла трэцяе месца сярод усіх камандаў і першае месца сярод дваровых камандаў (што не маюць лядовай арэны). 18-20 сакавіка гэта група будзе прадстаўляць Мінскую вобласць на рэспубліканскіх спаборніцтвах у Лідзе.

Каманда 2001–2002 гадоў нараджэння стала чацвертай у агульным заліку і другой сярод дваровых камандаў, прапусціўшы наперад сапернікаў з Барысава. А **Юры Маскалевіч, Руслан Вайцяхоўскі, Максім Вайцяхоўскі, Ілля Зюзюн і Кірыл Яцэвіч** былі ўзнагароджаныя як лепшыя гульцы.

За дапамогу ў падрыхтоўцы хакейнай каманды хочацца выказаць удзячнасць Вілейскаму райвыканкаму і асабліва намесніку старшыні **Святлане Дзяружэ**, дэпутату Палаты прадстаўнікоў **Віктару Русаку**, аграфірме "Ілья" ЗАТ "РАСТЭМ" і кіраўніку **Ігару Чыркевічу**, аддзелу адукацыі, спорту і турызму райвыканкама.

Няхай зіма не спрыяла хакейным трэніроўкам і зусім мала змаглі патрэніравацца юныя спартсмены на школьным катку, тым не менш яны дастойна абаранілі гонар школы і ўсяго раёна. Парадавалі ўсіх нас, а асабліва сваіх трэнераў – настаўніка фізічнай культуры **Таццяну Дуровіч** і педагога дадатковай адукацыі **Анатоля Юшко**.

**Аксана ЯРАШОНАК,**
**педагог-арганізатар Ільянскай сярэдняй школы імя Грымаца.**

## Камент-эксперт

**Не трымайце ў сабе: напішыце, што думаеце**

**Пакідайце каментары пад артыкуламі на інтэрнэт-старонцы Rh.by ці ў суполках газеты ў сацсетках**

**Глядзіце фотарэпартаж з "Місіс Маладзечна-2016": танцы ў халацiках i без (Дадалося відэа)**

Цудоўны конкурс, чароўныя ўдзельніцы! Як выглядаюць выдатна! Прыгожыя, абаяльныя, артыстычныя. Вельмі прыемна, што ў нас у горадзе праходзіў такі выдатны конкурс! Арганізатары проста малайцы, як і ўдзельніцы! *Кацярына*.

**У Вілейцы абмяркуюць высечку старых дрэў і пасадку новых па дзвюх вуліцах**

А хто і калі пасадзіць дрэвы па вуліцы Чарняхоўскага? Два гады таму выразалі прыгожыя вялікія дрэвы, якія нікому не заміналі. I зрабілі ў пачатку чэрвеня, калі птушкі селі на гнёзды. Да просьбаў жыхароў пакінуць хаця б некалькі ніхто не прыслухоўваўся... А цяпер на тым месцы бур'ян у чалавечы рост. ***Алена***.

## АДЗІН МОМАНТ З ЖЫЦЦЯ МАЛАДЗЕЧНА



**Нетыповая танцавальная вечарынка прайшла ў Маладзечне ў "Рэд бары" напрыканцы лютага. Яе ініцыятарам і натхняльнікам стаў гісторыка-этнаграфічны клуб "Кола", які запрасіў мінскі дударскі клуб. Падчас мерапрыемства можна было пачуць жывую беларускую і сярэднявечную музыку. Фота Настассі РОЎДЫ.**

## ГАРАСКОП 11-17 САКАВІКА



**Авен.** Зоркі раяць вам не зацыклівацца на тым, што не даспадобы. Мо, вашы чаканні проста завышаныя. Недарэмна кажуць, што пошукі шчасця – гэта галоўная крыніца няшчасцяў. Знізіўшы планку сваіх патрабаванняў да жыцця, вы адчуеце сябе нашмат шчаслівейшымі.



**Цялец.** Будзьце шчырыя. Менавіта шчырасць здольная рабіць цуды, яна – чарадзейны ключык да людскіх сэрцаў і душ.



**Блізняты.** Старайцеся кантраляваць паводзіны дзяцей, каб пасля не схапіцца за галаву.



**Рак.** У вас можа ўзнікнуць адчуванне, быццам свет рушыцца вакол вас. Не накручвайце сябе. Супакойцеся, гэта праходзіць. На выхадныя больш увагі ўдзяліце сабе.



**Леў.** Вы будзеце адчуваць сябе моцнымі, цэльнымі, быццам нарадзіліся занава – гэты перыяд будзе доўжыцца яшчэ нейкі час. Цяпер добры час пачынаць новыя справы.



**Дзева.** Каб змяніць сваё жыццё, даводзіцца рызыкаваць. Прыняцце абдуманых і рызыкоўных рашэнняў дапамагае нам расці. Часцяком рызыка – гэта добра.



**Шалі.** Усё ў вас атрымаецца. Звярніце ўвагу на тых, хто падтрымлівае, знаходзіць патрэбныя словы, дае добрыя парады – менавіта такія людзі могуць стаць надзейнымі саюзнікамі і сапраўднымі сябрамі.



**Скарпіён.** Можна і трэба праяўляць ініцыятыву, выступаць з дзелавымі прапановамі, прапаноўваць супрацоўніцтва новым партнёрам.



**Стралец.** У вас ціхі і спакойны перыяд. Вы плывяце па цячэнні і задавольваецеся тым, што само прыплыве ў рукі. Але ці тое прыплыве, што вам хочацца?



**Казярог.** Ува ўсіх вас перыяд насычаны падзеямі, жыццё паляпшаецца, ідзе ўгору, здароўе не падводзіць. Жывіце і радуйцеся жыццю.



**Вадалей.** Жыццё ваша працякае ціха, без змяненняў. Стаўце мэты і будзьце больш настойлівыя ў іх дасягненні. Блізкі чалавек больш, чым звычайна, мае патрэбу ў вашай увазе і падтрымцы, удзяліце яму час.



**Рыбы.** Вы востра рэагуеце на ўсё, што адбываецца, часта перажываеце з-за дробязяў, часам раздражняецеся з-за рэчаў, на якія ў іншы час нават не звярнулі б увагі. Пастарайцеся сканцэнтравацца на тым, што сапраўды важна, а ўсё астатняе адкладзіце.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

## ТЭАТРЫ

# Мінскі абласны драматычны тэатр



*РАНІШНІЯ СПЕКТАКЛІ*

**"Казка пра чырвоную стужачку"** (вясёлыя прыгоды для дзяцей і дарослых), Галіна Латышава, Алег Чэчанеў
12 сакавіка – у 10:30

*ВЯЧЭРНІЯ СПЕКТАКЛІ*

**"Чатыры навелы пра каханне".** *С.Злотнікаў, Л.Пятрушэўская, А.Слапоўскі, В.Распуцін*
11 сакавіка – у 19:00

**"Камедыя"** (камедыя ў 2-х дзеях паводле твораў *К.Марашэўскага, Ф.Аляхновіча*), Уладзімір Рудаў
15 сакавіка – у 19:00

**УВАГА! ГЛЕДАЧЫ БУДУЦЬ СВЕДКАМІ ЮБІЛЕЮ – 10-ГОДДЗЯ СЦЭНІЧНАГА ЖЫЦЦЯ СПЕКТАКЛЯ**
**"Шукаю сапраўднага мужчыну"** (камедыя ў 2-х дзеях), *Алена Папова*
18 сакавіка – у 19:00

Тэатр мае права на замену спектакляў

***Маладзечна, вуліца Чкалава, 7.***

Тэл. для даведак:
**75-24-17** (каса),
**75-29-16** (намеснік дырэктара).
E-mail: modt@tyt.by,
http://theatre-modt.by/.

УНП 600066659

# Мінскі абласны тэатр лялек "Батлейка"

**"Маленькая гісторыя"** (музычная казка), *Н.Гернэт,* рус.
13 сакавіка – у 12:00

**"Маша і мядзведзь"** (народная казка), *В.Швэмбергер,* бел.
20 сакавіка – у 12:00

**Міжнародны дзень тэатра**
**"Канёк-гарбунок"** (чарадзейная казка), *П.Яршоў,* рус.
27 сакавіка – у 12:00

Чакаем вас, шаноўныя гледачы, у нашым тэатры па адрасе:
***Маладзечна, вул. Драздовіча, 5-в.***
Тэл. **(8-0176) 75-36-73, 76-84-27.**

МАТЛ "Батлейка" УНП 600136804

## СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | 2 | 1 |
| | | | 6 | | | 5 | 8 | |
| | | 7 | | 4 | | | | |
| | 8 | | 1 | | | 4 | 7 | |
| | | 9 | | 6 | | 3 | | |
| | 4 | 5 | | | 7 | | 1 | |
| | | | | 8 | | 9 | | |
| | 7 | 4 | | | 5 | | | |
| 9 | 2 | | | | | | | |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.



## КІНО

# Кінатэатр "Радзіма", Маладзечна

*ВЯЛІКАЯ ЗАЛА*

Мультфільм, прыгоды, камедыя "**Кунг Фу Панда 3**" (3D, ЗША, Кітай, 2015, без узроставых абмежаванняў)
12 сакавіка – у 15:10
Цана білета: 55 000 рублёў

Мультфільм, камедыя, прыгоды "**Кракнутыя канікулы**" (3D, Расія, 2015, без узроставых абмежаванняў)
13 сакавіка – у 12:00
Цана білета: 30 000 рублёў

Прэм'ера! Камедыя, сямейны "**СуперБабровы**" (Расія, 2015, да 12 год у суправаджэнні дарослых)
17 сакавіка – у 17:00
Цана білета: 25 000 рублёў

Мультфільм, баявік, камедыя "**Звераполі**с" (3D, ЗША, 2016, без узроставых абмежаванняў)
11 сакавіка – у 17:20
Цана білета: 50 000 рублёў
12 сакавіка – у 12:50 – 30 000 рублёў
12 сакавіка – у 19:40 – 50 000 рублёў
13 сакавіка – у 13:50 – 30 000 рублёў
13 сакавіка – у 18:40 – 50 000 рублёў

Прыгоды, фэнтэзі "**Богі Егіпта**" (3D, ЗША, 2016, да 12 год у суправаджэнні дарослых)
13 сакавіка – у 16:10
15 сакавіка – у 18:30
Цана білета: 55 000 рублёў

Камедыя, меладрама "**8 лепшых спатканняў**" (Расія, 2016, да 14 год у суправаджэнні дарослых)
11 сакавіка – у 22:00
14 сакавіка – у 21:00
16 сакавіка – у 19:00
Цана білета: 45 000 – 50 000 рублёў

Фантастыка, баявік, прыгоды "**Дывергент, глава 3: За сцяной**" (ЗША, 2016, пасля 16 год)
11 сакавіка – у 19:40
12 сакавіка – у 17:20 і 22:00
13, 15, 16 сакавіка – у 21:00
14 сакавіка – у 18:40
17 сакавіка – у 21:30
Цана білета: 45 000 – 50 000 рублёў

Прэм'ера! Баявік, трылер, крымінал "**Падзенне Лондана**" (ЗША, Вялікабрытанія, 2016, пасля 16 год)
17 сакавіка – у 19:10
Цана білета: 45 000 рублёў

*ЗАЛА ПАВЫШАНАЙ КАМФОРТНАСЦІ*

Прэм'ера! Камедыя "**Рабінзон і дзевяць Пятніц**" (Грузія, Азербайджан, 2015, пасля 16 год)
11 сакавіка – у 17:00
14, 16 сакавіка – у 17:20
Цана білета: 40 000 рублёў

Мультфільм, камедыя, прыгоды "**Кракнутыя канікулы**" (3D, Расія, 2015, без узроставых абмежаванняў)
12 сакавіка – у 14:30
Цана білета: 35 000 рублёў

Камедыя, прыгоды "**Новыя прыгоды Аладзіна**" (3D, Францыя, 2016, да 12 год у суправаджэнні дарослых)
12 сакавіка – у 16:30
13 сакавіка – у 14:50
Цана білета: 30 000 рублёў



Фантастыка, баявік, трылер "**Дэдпул**" (ЗША, Канада, 2015, пасля 18 год)
11 сакавіка – у 19:00
13 сакавіка – у 17:00
14 сакавіка – у 19:20
16 сакавіка – у 21:30
Цана білета: 50 000 рублёў

Камедыя, меладрама "**8 лепшых спатканняў**" (Расія, 2016, да 14 год у суправаджэнні дарослых)
12 сакавіка – у 21:00
13, 15 сакавіка – у 21:30
Цана білета: 50 000 рублёў

Фантастыка, баявік, прыгоды "**Дывергент, глава 3: За сцяной**" (ЗША, 2016, пасля 16 год)
11 сакавіка – у 21:10
12, 17 сакавіка – у 18:40
13, 15 сакавіка – у 19:10
14 сакавіка – у 21:30
16 сакавіка – у 19:20
Цана білета: 50 000 рублёў

Баявік, трылер, крымінал "**Падзенне Лондана**" (ЗША, Вялікабрытанія, 2016, пасля 16 год)
17 сакавіка – у 21:00
Цана білета: 50 000 рублёў

Тэлефон: (80176) **77-15-92, 77-06-30**

# Кінатэатр "Мір", Вілейка

*ВЯЛІКАЯ ЗАЛА*

Мультфільм, баявік, камедыя "**Звераполіс**" (3D, ЗША, без узроставых абмежаванняў)
11, 13 сакавіка – у 17:00
12 сакавіка – у 19:00
Цана білета: 50 000 рублёў
12, 13 сакавіка – у 13:00
Цана білета: 30 000 рублёў

Камедыя, меладрама "**Восем лепшых спатканняў**" (2D, Расія, да 14 год у суправаджэнні дарослых)
11, 13 сакавіка – у 19:00
Цана білета: 45 000 рублёў

Фантастыка, баявік, прыгоды "**Дывергент, глава 3: За сцяной**" (2D, ЗША, пасля 16 год)
11, 13 сакавіка – у 21:00
12 сакавіка – у 16:50
Цана білета: 45 000 рублёў

Мультфільм, прыгоды, камедыя "**Кракнутыя канікулы**"(3D, Расія, без узроставых абмежаванняў)
12 сакавіка – у 15:00
Цана білета: 30 000 рублёў

Фантастыка, баявік, трылер "**Дэдпул**" (2D,ЗША, Канада, з 18 год)
12 сакавіка – у 21:00
Цана білета: 45 000 рублёў

Камедыя, прыгоды "**Новыя прыгоды Аладзіна**" (2D, Францыя, да 12 год у суправаджэнні дарослых)
13 сакавіка – у 15:00
Цана білета: 25 000 рублёў

*ЗАЛА ПАВЫШАНАЙ КАМФОРТНАСЦІ*

Камедыя "**Вясёлыя рабяты**" (Расія, да 12 год у суправаджэнні дарослых)
11, 12, 13 сакавіка – у 17:30
Цана білета: 35 000 рублёў

Камедыя "**Рабінзон і 9 пятніц**" (Грузія, Азербайджан, да 12 год у суправаджэнні дарослых)
11 сакавіка – у 19:00
12, 13 сакавіка – у 19:10
Цана білета: 35 000 рублёў

Жахі "**Пячора**" (Іспанія, з 18 год)
11 сакавіка – у 20:30
12, 13 сакавіка – у 20:40
Цана білета: 35 000 рублёў

Анімацыя "**Маша і мядзведзь. Заблытаныя гісторыі**" (Расія, без узроставых абмежаванняў)
12 сакавіка – у 14:30
13 сакавіка – у 13:30
Цана білета: 12 000 рублёў

Анімацыя "**Песня мора**" (Ірландыя, без узроставых абмежаванняў)
12 сакавіка – у 15:30
13 сакавіка – у 14:30
Цана білета: 12 000 рублёў

Тэлефон для даведак:
(801771) **5-68-59**

ISSN 1991-7155

# Рэгіянальная газета. Rh.by

тэлетыдзень

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015

● НАДВОР'Е

## 12 сакавіка, субота

| | Пятніца | | Субота | | Нядзеля | | Панядзелак | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мінск | +6 / +7 | | +4 / +4 | | 0 / 0 | | -1 / +1 | |
| | 748 | ← 2 | 749 | ↙ 3 | 751 | ↙ 4 | 754 | ↙ 2 |
| Вільня | +5 / +6 | | +4 / +3 | | -1 / 0 | | -1 / 0 | |
| | 757 | ↙ 2 | 759 | ↙ 4 | 762 | ↙ 3 | 764 | ↓ 3 |

| Тэмпература паветра | Воблачнасць ападк | Усход, захад па Маладзечне |
|---|---|---|
| Ц ск (мм рт. сл.) | Хуткасць ветру м/с | |


Усход 7.32
Захад 19.12
Даўжыня дня 11.40


Усход 9.16
Захад 23.57
Квадра 1




● ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я Ў РЭГІЁНЕ

ВАЛОЖЫН

Мінімальная тэмпература -13,8 °C у 1983 годзе
Максімальная тэмпература +13,4 °C у 2002 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 8,3 мм у 2006 годзе
Назіранні за 38 год. Паводле meteoinfo.by

## Чытайце праз тыдзень:

- У Астравецкім раёне зарэгістравана 5 машын 1940-1950 года выпуску. А якая самая папулярная марка ў Астраўцы, Смаргоні і Ашмянах, вы даведаецеся праз тыдзень.



● ПРОСТА АНЕКДОТ

– Дарагая, паглядзі, які дзень выдатны!
– На што ты намякаеш?
– Ну, ты ж сама сказала, што ў адзін выдатны дзень пойдзеш ад мяне.

***

Я не магу проста так сядзець і нічога не рабіць. Пайду, паляжу.

***

– Кім вы працуеце?
– Ну... Я дапамагаю людзям знайсці сваё месца ў цяперашні момант іх жыцця.
– Дык вы псіхолаг?
– Не, я таксіст.

***

– Вы прымаеце якія-небудзь прэпараты?
– Не.
– Тады як вы патлумачыце свае спартыўныя дасягненні?
– Я проста многа кашы ем.
– Ага! Значыць, уносім манную кашу ў допінгавы спіс.

***

– Ох, ёсць што ўнукам расказаць! – радуешся ты.
А састарэў, бац – і яны не разумеюць, што ты сам сабе пад нос бубніш.

***

– А мне мама заўсёды купляе булачку за пяцёрку!
– Гледзячы па фігуры, ты – круглая выдатніца.

***

Раніцай, як ні падыдзеш да прыпынку, многія стаяць і кураць. Яны што сапраўды вераць, што курэнне выклікае маршрутку?

***

Муж жонцы:
– Я зарабляю столькі, што магу ўтрымліваць дзвюх такіх жанчын, як ты.
– У такім выпадку з намі будзе жыць мая мама.

***

У кватэры рамонт. Муж працуе, жонка круціцца побач і дае "карысныя парады". Муж доўга трывае, а потым выдае:
– Як мужыкі гарэмы церпяць? Пакуль усіх выслухаеш, здурнець можна.

***

Яна была настолькі прыгожая, што ў мяне ажно сціснуўся кашалёк...

● ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў МАЛАДЗЕЧНЕ

## Якая прафесія самая цікавая ў свеце?



**Якаў Падлужны, наладчык:**
– Самая цікавая прафесія ў свеце – гэта фрэзероўшчык. Я на "Спадарожніку" працаваў 23 гады. Цікава было працаваць, таму што думаць, вылічваць гэтыя сотачкі і мікроны – такое задавальненне. Спускаеш жалеза і глядзіш, што з яго атрымоўваецца.



**Рэгіна Скапец, прыбіральшчыца:**
– З дзяцінства марыла быць прадавачкай, таму што цікава працаваць з людзьмі. А яшчэ лічыць грошы, хто ж гэтага не любіць?



**Аляксандр Нужын, пенсіянер:**
– Ну як тут адкажаш? Кожная прафесія па-свойму цікавая. Для мяне гэта тая, дзе трэба прымаць адказныя мужчынскія рашэнні. Я працаваў у дэпо слесарам, лічыў гэту працу адказнай і сур'ёзнай. А ўсю маладосць працаваў мараком замежных плаванняў. І не быў толькі ў Аўстраліі і Амерыцы.



**Лізавета Аўдашкевіч, навучэнка:**
– Мне здаецца, што няма больш цікавейшай працы за працу журналіста. Гэта ж камандзіроўкі, сустрэчы з цікавымі людзьмі. А сама вучуся на тэхнолага, хаця па спецыяльнасці працаваць не збіраюся. Проста ў школе надакучыла вучыцца.



**Дзяніс Мандрык, навучэнец:**
– Самая цікавая прафесія – гэта тынкоўшчык-абліцоўшчык-плітачнік. Я з дзяцінчага садка марыў пра гэту прафесію. Яе абраў і мой старэйшы брат. Вучуся і я цяпер на яе. Не сказаць, што гэта самая творчая прафесія, але яна прыносіць шмат грошай, гэтым і харошая.



**Галіна Клінцэвіч, у дэкрэтным адпачынку:**
– Я па спецыяльнасці медык, таму лічу, што самая цікавая прафесія якраз доктар. Ратаваць жыцці людзям, што можа быць найважней? А як стала маці, то лічу, што і мама – адна з самых цудоўных прафесій на свеце. Але ўсё адно збіраюся працаваць медыкам.



**Уладзіслаў Алізар, навучэнец:**
– Праграміст. Таму што кожны дзень дазнаешся нешта новае, ідзеш у нагу з часам. У дзяцінстве я марыў быць касманаўтам, але вырас, і мары сталі больш рэальнымі. Цяпер не ўяўляю сваё жыццё без фізікі. Формулы – гэта зусім не сумна.

**Падрыхтавалі Наталля ТУР і Настасся РОЎДА.**

Рэгіянальная газета. Rh.by
Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 6000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№11 (1089) 11.03.2016. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня УП "Плутас-Маркет", 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59а.
Ліцэнзія ЛП №02319 ад 30.04.2004 №93.
Зак. 227. Падпісана ў друк у 9.00 10.03.2016.
Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.

Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Адрас рэдакцыі: 222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68-а.
Тэлефоны/факс: (0176) 769667, 747100, 753841 (рэклама).
E mail: regionnews@rh.by, reklama@rh.by, http://rh.by
Разліковы рахунак №3012164030004
у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, код 226,
атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета",
УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.